Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 13 лютага 1987 г. № 7 (3365) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## НАШ СУЧАСНІК— ПУШКІН

**Глыбокі, ясны і чысты свет Пушкіна. Поўны гармоніі і прыгажосці, створаны вакол чалавека і звернуты да народа, ён бясконцы і разнастайны, як само жыццё. Вечныя ідэалы — праўду і свабоду, годнасць, сумленне, гонар — прынёс у наш век Пушкін. І з гэтымі каштоўнасцямі ідзе ён у будучыню, абуджаючы пачуцці добрыя ў новых пакаленнях, назаўсёды застаючыся іх духоўным настаўнікам і сучаснікам.**

**Аддаць даніну памяці вялікаму сыну Айчыны сабраліся 10 лютага ў Маскве, у Вялікім тэатры Саюза ССР прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў, дзеячы літаратуры і мастацтва.**

**Апладысментамі сустрэлі ўдзельнікі вечара таварышаў ГАРБАЧОВА М. С., АЛІЕВА Г. А., ВАРАТНІКОВА В. І., ГРАМЫКУ А. А., ЗАЙКОВА Л. М., ЛІГАЧОВА Я. К., РЫЖКОВА М. І., САЛОМЕНЦАВА М. С., ЧЭБРЫКАВА В. М., ШЭВАРДНАДЗЕ Э. А., ДЗЕМІЧАВА П. Н., ДАЛГІХ У. І., СЛЮНЬКОВА М. М., ТАЛЫЗІНА М. У., ЯКАЎЛЕВА А. М., БІРУКОВУ А. П., ДАБРЫНІНА А. Ф., ЛУК'ЯНАВА А. І., МЯДЗВЕДЗЕВА В. А., НІКАНАВА В. П., РАЗУМОЎСКАГА Г. П.**

**Вечар адкрыў старшыня Усесаюзнага камітэта па правядзенні Дзён памяці А. С. Пушкіна, міністр культуры СССР В. Г. ЗАХАРАЎ.**

**Дні памяці Пушкіна арганічна, падкрэсліў ён, блізкія атмасферы актыўных грамадзянскіх спраў, шырокай дэмакратыі, праўды і публічнасці, якая ўсталёўваецца ў савецкім грамадстве. Найвышэйшы гуманізм яго паэзіі — наш верны саюзнік у бітве з духоўнай карозіяй і коснасцю, за глыбокае абнаўленне ўсяго жыцця.**

**Зноў і зноў вывучаючы спадчыну А. С. Пушкіна, учытваючыся ў яго мудрыя, прызыўныя радкі, мы набываем у вялікім паэце нашага духоўнага сучасніка, сказаў у заключэнне прамоўца.**

**Слова пра жыццё і творчасць Пушкіна сказаў паэт Я. ІСАЕЎ. Творчасць Пушкіна, сказаў ён, з'яўляецца часткай нас саміх, часткай акружаючай нас прыроды. Яго слова хвалюецца на зямлі, ходзіць ад сэрца да сэрца, з пакалення ў пакаленне, з народа ў народ.**

**Пра значэнне творчасці Пушкіна, вернасць савецкіх дзеячаў культуры яго традыцыям гаварылі ўкраінскі паэт Б. АЛЕЙНІК, народны пісьменнік Кіргізіі Ч. АЙТМАТАЎ, паэт-акадэмік І. АБАШЫДЗЕ (Грузія), народны артыст СССР кампазітар Г. СВІРЫДАЎ, народны артыст СССР К. ЛАЎРОЎ.**

# ГОНАР І СЛАВА АЙЧЫНЫ




Прэзідыум вечара, прысвечанага памяці А. С. Пушкіна, які адбыўся ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР.

Слова пра творчасць вялікага рускага паэта гаворыць віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Навуменка.

10 лютага ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР адбыўся вечар, прысвечаны памяці вялікага рускага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

У прэзідыуме знаходзіліся таварышы Я. Я. Сакалоў, Г. С. Таразевіч, М. В. Кавалёў, Г. Г. Барташэвіч, А. А. Малафееў, В. А. Пячэннікаў, прадстаўнікі партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх органаў, кіраўнікі міністэрстваў, ведамстваў і творчых саюзаў, дзеячы літаратуры і мастацтва, перадавікі вытворчасці, воіны, студэнты.

Уступным словам вечар адкрыў Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай прэміі, народны паэт Беларусі Максім Танк.

## «Высокая сіла паэзіі...»

### З выступлення Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Ленінскай прэміі, народнага паэта Беларусі М. ТАНКА

Каму не вядомы вешчыя словы В. Бялінскага: «Пушкін належыць да з'яў, якія жывуць і рухаюцца вечна, не спыняючыся ў тым пункце, дзе заспела іх смерць, а прадаўжаючы развівацца ў свядомасці грамадства»? Ніводзін з класікаў сусветнай літаратуры не займае такога месца ў сучасным духоўным жыцці свайго народа, як Пушкін. «Высокая і светлая сіла яго паэзіі, чалавечнасць дум і пачуццяў, пушкінскі гуманізм, справядліва ўзяты цяпер у спадчыну гуманізмам сацыялістычным», як зазначаў Аляксандр Твардоўскі, не страцілі свайго значэння сёння, і не страцяць ніколі.

Як сын Айчыны, Пушкін не мог не задумацца над кардынальнымі пытаннямі ўсіх часоў і народаў — над вынікамі вялікіх узрушэнняў у грамадстве і прыродзе, над праблемамі вайны і міру. Ён быў патрыётам, ён ганарыўся перамогамі воінаў расійскіх, але адначасова бачыў усю жорсткасць вайны і звязаныя з ёй незваротныя страты. У вершы «Вайна» Пушкін пісаў:

И все умрет со мной: надежды юных дней,
Священный сердца жар, к высокому стремленье,
Воспоминание и брата и друзей,
И мыслей творческих напрасное волненье,
И ты, и ты, любовь!..

Пісалася ўсё гэта не ў нашу пару, калі над галавой вісіць небяспека знішчэння ўсяго чалавецтва. Аднак жа яго неўміручыя словы гучаць як набатны кліч, звернуты да ўсіх народаў свету: «Да здравствует разум, да скроется тьма!»

Яго нястомнымі клопатамі была створана руская літаратурная мова, ва ўсіх жанрах прыгожага пісьменства былі прапанаваны радыкальныя рэформы. Даўшы магутны штуршок новай рускай літаратуры, ён імкліва вывеў яе на сусветную дарогу, паставіўшы надзейныя і далёка бачныя вехі для ўпэўненага руху наперад. Дарэчы будзе прывесці тут нядаўняе выказванне амерыканскага пушкініста Уолтэра Вікеры: «Пушкін сказаў тое, што ніколі не было да яго вымаўлена, і тое, што з тых часоў ніколі не забывалася».

Універсальнасць яго генія дазволіла стварыць найвышэйшыя ўзоры не толькі рускага верша, але і прозы. Нездарма Леў Талстой гаварыў, што «Аповесці Белкіна» трэба «вывучаць і вывучаць кожнаму пісьменніку».

Пушкін — адна з самых дзіўных з'яў у сусветнай паэзіі, і як пясняр братняга рускага народа нам ён заўсёды быў асаб-

(Заканчэнне на стар. 2—3).

# ГОНАР І СЛАВА АЙЧЫНЫ

(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1).

ліва блізкім. Пад яго дабратворным уплывам расла і развівалася беларуская паэзія. Бадай, нельга сёння знайсці ў нас паэта, у творчасці якога не адчуваўся б яго ўплыў. Не знойдзеш і ніводнага беларуса, які б не чытаў Пушкіна.

З Беларуссю звязаны і пэўныя моманты біяграфіі Пушкіна. Праз наш край пралёг шлях маладога паэта, які вяртаўся з выгнання ў Міхайлаўскае праз Магілёў і Віцебск. У Беларусі жылі нашчадкі паэта. Сюжэт аповесці «Дуброўскі» быў падказаны гісторыяй «аднаго беларускага небагатага шляхціца, па прозвішчу Астроўскі».

Прайшло паўтара стагоддзя з дня смерці Пушкіна, а мы яго ўсё адкрываем нанова, бо яго творчая спадчына — жывая і дзейсная сіла, магутны паскаральнік развіцця шматнацыянальнай сацыялістычнай культуры.

Адным з бліжэйшых клопатаў кожнага, хто працуе на ідэалагічным фронце, павінен быць клопат аб набліжэнні Пушкіна да нашых дзён, да цяперашніх і заўтрашніх пакаленняў савецкіх людзей. Тут узрастаючая роля адводзіцца школе, якая, ступіўшы на дарогу рэформы, здольна будзе далучыць навучэнцаў да невычэрпна багатых духоўных скарбаў і перш за ўсё да пушкінскай спадчыны. Вялікім творам генія ў мастацтве суджана бясконца доўгае жыццё на карысць чалавецтва.

## «Найярчэйшая зорка ў цудоўным сузор'і...»

### З выступлення лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, віцэ-прэзідэнта АН БССР І. Я. НАВУМЕНКІ

Сто пяцьдзесят гадоў прайшло пасля смерці Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, генія рускай літаратуры, які сваёй асобай і сваёй творчасцю аказаў і аказвае агромністы ўплыў на лёсы літаратур народаў Савецкага Саюза, на сусветны літаратурны працэс.

Жыццёвы шлях Пушкіна быў нядоўгім і глыбока трагічным. Пачаўшыся на сумежжы васемнаццатага і дзевятнаццатага стагоддзяў, ён абарваўся на самым парозе дэмакратычнага ўздыму рускай літаратуры, якая як бы прыняла эстафету ад дзекабрыстаў.

Пушкін не належыць да ліку непрызнаных геніяў. Ён быў прызнаны адразу, яшчэ пры жыцці паэта, вакол кожнага яго твора вяліся гарачыя спрэчкі, дыскусіі, і кожнае новае дзесяцігоддзе, кожная эпоха па-свойму адкрывала Пушкіна, выяўляючы сваё бачанне спадчыны геніяльнага паэта. Мы, яго сацыялістычныя нашчадкі, аддзеленыя ад папярэдніх эпох сямідзесяцігадовым рубяжом Вялікага Кастрычніка, бачым у Пушкіне не толькі агромністай сілы асобу, паэта-волата, творы якога хвалююць і ўзрушваюць нашы сэрцы, не толькі стваральніка рускай літаратурнай мовы, на якой узнікла і руская савецкая класіка. Мы бачым у Пушкіне сучасніка, субяседніка, настаўніка, які дапамагае нам жыць і працаваць, без якога наогул нельга ўявіць наша літаратурнае, мастацкае, духоўнае жыццё.

У нашай сацыялістычнай краіне паэзія Пушкіна атрымала такое агромністае пашырэнне, перад якім не ідуць ні ў якое параўнанне выданні паэта ў дарэвалюцыйную пару. Дастаткова сказаць, што апошні трохтомны збор яго твораў выходзіць тыражом 10 мільёнаў 700 тысяч экзэмпляраў. Можна без нацяжкі сцвярджаць: творы Пушкіна, як настольная кніга, ёсць у кожным савецкім доме.

Воляй лёсу Пушкін пазбег рэпрэсій, што абрушыліся на дзекабрыстаў, сярод якіх былі блізкія сябры і аднадумцы паэта. Але паэтычная дзейнасць Пушкіна, што вялася ў няспыннай, жорсткай, няроўнай барацьбе з сіламі рэакцыі, цемрашальства за духоўную незалежнасць сваёй асобы, права заставацца «непадкупным» голасам і «рэхам рускага народа», была не меншым грамадзянскім подзвігам, чым рэвалюцыйны подзвіг дзекабрыстаў. Адчайныя намаганні Пушкіна адстаяць у гэтых умовах сваю чалавечую годнасць, права думаць і пісаць, як ён хоча, не прыніжацца перад царом і царадворцамі, нарэшце паставілі геніяльнага паэта пад няўмольны пісталет Дантэса.

Пушкін — першы рускі паэт сусветнага маштабу і значэння. Свой уплыў на мастацкае развіццё чалавецтва ён аказваў перш за ўсё тым, што быў найвялікшым паэтам Расіі, што яго творчасць як бы апладніла, дала накірунак вялікім ідэйна-мастацкім адкрыццям і здабыткам наступных перыядаў рускай літаратуры, рускай духоўнай культуры, што атрымалі магутны міжнародны рэзананс, сусветнае прызнанне ўжо ў пасляпушкінскую эпоху, у эпоху наспявання першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

Творчасць Пушкіна ўвабрала ў сябе агромністы гістарычны, мастацкі вопыт усёй папярэдняй рускай літаратуры. Нарадзілася пушкінская паэзія на хвалі ўздыму рускай нацыянальнай самасвядомасці, выкліканай Айчыннай вайной 1812 года. Можа быць па гэтай прычыне Пушкін быў, па сутнасці, паэтам адной тэмы. Але тэма гэтая—Расія, яе мінулае, сучаснасць, будучыня, яе дзіўная, непаўторная прырода, адметнасць, своеасаблівасць рускага нацыянальнага характару, нарэшце месца Расіі ў свеце.

Безумоўна, папярэднікі Пушкіна, пачынаючы, бадай, ад Нестара-летапісца, таксама пісалі аб Расіі. Але іменна Пушкін першым стаў паэтам рускага народа, бо першым загаварыў мовай народа, зірнуў на свет вачамі народа, увасобіў у сваіх творах этычны і эстэтычны народны ідэал. Пушкін прынёс у паэзію, прозу новы стыль — лірычны, эпічны, якога да яго руская літаратура не ведала і без якога яна, як літаратура, не магла развівацца.

Пушкін быў не толькі геніяльным мастаком слова, ён быў адначасна філосафам, гісторыкам, выдатным крытыкам, літаратуразнаўцам, надзеленым здольнасцю паглыбляцца ў стагоддзі сівой мінуўшчыны і глядзець далёка наперад. Асоба Пушкіна настолькі багатая, шырокая, шматгранная, гэтак шчодра надзеленая ад прыроды, што не паддаецца колькі-небудзь дакладнаму чалавечаму і мастацкаму вымярэнню. Ён неабдымны, як само жыццё.

Муза яго здольна плакаць і смяяцца, быць бесклапотна-гуллівай і ўздымацца на высокі парог трагічнасці, яна часам ператвараецца ў пранікнёны шэпт закаханага, споведзь уражанага жаночым хараством сэрца, умее спяваць дзіўную песню аб харастве прыроды і вяшчаць трыбунным голасам народнага веча.

Я, відаць, не перабольшу, калі скажу, што пачынаючы з дзяцінства, са школьных хрэстаматый адкрываць хараство навакольнага свету, роднай зямлі, болей, чым хто другі з паэтаў, нас вучыць Пушкін. «Буря мглою небо кроет, вихри снежные крутя, то как зверь она завоет, то заплачет, как дитя»; «Уж небо осенью дышало, уж реже солнышко блистало, короче становился день, лесов таинственная сень с печальным шумом обнажалась»; «Зима!.. Крестьянин торжествуя, на дровнях обновляет путь» — колькі такіх радкоў і вершаў запомнілі мы з дзяцінства, і яны сталі нашымі спадарожнікамі на ўсё жыццё. Пачуццё радасці, здзіўлення, захаплення выклікаецца якраз тым, што ў вершах геніяльнага паэта ўсё вельмі простае, роднае, блізкае.

У лірыцы Пушкіна знайшла найбольш поўнае выяўленне асоба паэта, яе агромністая духоўная энергія, адчуванне вялікім творцам як супярэчнасцей жыцця, так і яго гармоніі. Сэрцу Пушкіна бясконца дарагі свет рускага народнага жыцця, духоўныя каштоўнасці, створаныя народам на працягу стагоддзяў. Сваёй першай паэмай «Руслан і Людміла», бессмяротнымі казкамі, зрэшты ўсёй творчасцю геніяльны паэт гэта засведчыў.

У першы перыяд сваёй творчасці (рубеж канца 10-х — пачатку 20-х гадоў XIX стагоддзя) Пушкін узначальвае плынь рускага рамантызму, становіцца выразнікам яго свабодалюбівых, як і ў славутага англійскага паэта Байрана, імкненняў. Аднак ужо ў час стварэння так званых «паўднёвых» паэм — «Каўказскі палоннік», «Браты-разбойнікі», «Бахчысарайскі фантан», «Цыганы» — усеабдымная шырыня, ёмістасць прынцыпу народнасці ва ўяўленні Пушкіна далёка апярэджваюць «байранаўскае» разуменне гэтага прынцыпу. Таму першаступенным аспектам праблемы «народнасці» ў Пушкіна выступае неабходнасць ачысціць літаратурную мову ад залішняй прыглажанасці, «вычурнасці», перанятых некаторымі рускімі пісьменнікамі ад пісьменнікаў заходнееўрапейскіх і не ўласцівых рускаму стылю, светаўспрыманню, светаадчуванню.

«Яўгеній Анегін» — найвышэйшае паэтычнае дасягненне Пушкіна, якое не мае жанравых аналогій ні ў рускай, ні ў сусветнай літаратуры. Бялінскі назваў вершаваны раман Пушкіна «энцыклапедыяй рускага жыцця». У рамане паэт крытычна асэнсоўвае адрыў адукаванай вярхушкі дваранскага грамадства, яго самаізаляцыю ад жыватворнага маральна-духоўнага грунту, традыцый нацыянальнага жыцця, у тым ліку традыцый простанародных, сялянскіх.

І яшчэ некалькі слоў пра адну здзіўляючую якасць генія Пушкіна. З'яўляючыся па сваёй прыродзе арганічна рускай з'явай, Пушкін тым не меней умеў паглыбіцца ў духоўны свет другіх народаў, нацый, адчуць, зразумець яго, робячы і ў гэтай галіне вялікія адкрыцці. Эгаістычны пачатак, індывідуалістычная стыхія заходнееўрапейскай цывілізацыі з яе феадальнымі вытокамі, буржуазнай прыродай знайшлі ўвасабленне ў так званых «Маленькіх трагедыях»: «Скупы рыцар», «Каменны госць», «Моцарт і Сальеры». На дзіва аб'ектыўны, праўдзівы Пушкін: ён не кідае цень на чужаземнае жыццё, паказваючы яго ў драматычным спляценні светлых і цёмных бакоў. Пушкін ніколі не забывае пра агульначалавечыя страсці.

Пушкін блізкі і родны нам, беларусам. Ён праязджаў па нашых вёсках і гарадах, цікавіўся гісторыяй Беларусі, і гэта дало яму падставу сказаць пра беларусаў, як пра народ «издревле нам родной, но отчужденный от России жребиями войны».

Пушкін самы любімы ў народзе пісьменнік. Мілагучна, чароўна, меладычна гучаць яго радкі на беларускай мове. У тым ліку «Яўгеній Анегін», перакладзены А. Куляшовым, «Медны коннік» у перакладзе Янкі Купалы, «Палтава», перакладзеная Якубам Коласам, і многія іншыя пушкінскія творы — вершаваныя і празаічныя.

Агромністы ўплыў аказала творчасць Пушкіна на беларускую літаратуру. Яшчэ ў мінулым стагоддзі гэты ўплыў адчуў на сабе наш першы буйны мастак слова В. Дунін-Марцінкевіч. Маецца на ўвазе яго ідылія «Сялянка», якая відавочна перагукваецца з пушкінскай «Паненкай - сялянкай». Пушкінская ліра ўздзейнічала і на выдатнага беларускага дарэвалюцыйнага паэта Максіма Багдановіча. Ды і класікі нашай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас глыбока чэрпалі з бяздоннай крыніцы пушкінскай паэзіі. Якуб Колас уплыў пушкінскай творчасці называе рашаючым: «Калі б не было Пушкіна з яго «Яўгеніем Анегіным», одай «Вольнасць» і пасланнем «У Сібір», «Капітанскай дачкой», — пісаў ён, — не было б, напэўна, і маіх паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата», лірыкі і прозы».

«У гістарычным развіцці літаратуры еўрапейскай, — пісаў Максім Горкі, — наша юная літаратура ўяўляе сабой феномен дзівосны... Наша літаратура — наша гордасць, лепшае, што створана намі як нацыяй. У ёй уся наша філасофія, у ёй увасоблены вялікія парыванні духа; у гэтым дзіўным, казачным, хутка пабудаваным храме па сённяшні дзень ярка гараць розумы вялікай красы і сілы, сэрцы святой чысціні, розумы і сэрцы сапраўдных мастакоў... І ўсе яны, праўдзіва і сумленна асвятляючы зразуметае, перажытае імі, гавораць: храм рускага мастацтва пабудаван намі пры маўклівай дапамозе народа, народ натхняў нас, любіце яго...»

Першая зорка ў выдатным сузор'і творцоў рускай літаратуры Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Як і прадбачыў паэт, увесь ён не памёр, яго душа, увасобленая ў запаветнай ліры, тленню не паддаецца, яго назвала кожная існая на абсягах нашай агромністай сацыялістычнай Айчыны мова: і горды ўнук славян, і тунгус, і калмык як і ўсе астатнія савецкія народы. Слава аб геніяльным паэце перакрочыла рубяжы Айчыны. Пушкінская паэзія натхняе, саграває сэрцы мільёнаў людзей ва ўсім свеце.

## «Праз вякі ён будзе першым...»

### З выступлення лаўрэата Ленінскай прэміі, Героя Сацыялістычнай Працы, народнага пісьменніка БССР В. У. БЫКАВА

Пушкін належаў да тых сусветных волатаў духу, якіх у свой час або шчыра любілі, або гэтак жа шчыра ненавідзелі. У адносінах да яго размежаванне было гранічнае: або-або.

Трэба дзеля справядлівасці зазначыць, што гэтак сама адносіўся да свету, у якім жыў, і сам Пушкін. Адных ён шчыра любіў, другіх ненавідзеў — пустых царадворцаў, безгаловых чыноўнікаў, цэнзараў, усемагутную ў Расіі тайную паліцыю.

Вядома таксама, што Пушкін не любіў велерэчывыя, псеўдагістарычныя сачыненні. Дзіўна, але чалавек вельмі выразнага светапогляду, майстар слова, ён не любіў прозу. Ёсць яго асабістае сведчанне: «Ежели бы я не был вынужден обстоятельствами, я бы для прозы не обмакнул пера в чернилы». Калі гэта сапраўды так, то чалавецтва ўдзячнае тым яго «обстоятельствам», якія так або інакш былі ім перажыты, нават невясёлым абставінам, якія затрымалі паэта на некалькі тыдняў у далёкім Болдзіне і тым самым садзейнічалі нараджэнню бессмяротных радкоў ягонай прозы — ягоных маленькіх аповесцей і маленькіх трагедый. Цяпер ужо няважна, як да гэтага ставіўся сам аўтар, які, дарэчы, схаваўся за прыдуманым ім Іванам Пятровічам Белкіным і нават сачыніў яго псеўдабіяграфію, няважна, што некаторыя з сяброў сустрэлі паяўленне яго прозы ў друку без энтузіязму, нават малаважна і тое, што праніклівы і разумны Бялінскі назваў іх «нявартымі таленту і імені Пушкіна». Час паказаў, што Пушкін стварыў шэдэўры значэнне якіх ніколі не зменшыцца.

Пушкін з'явіўся вялікім рэфарматарам літаратуры, усіх яе жанраў. Ён пераўтварыў тагачасную літаратурную мову, паэзію і, канечне, не мог абысці сваім наватарствам прозу.

Вядома, што проза — гэта перш за ўсё мова ў яе жывой натуральнасці, не перасаджаная з французскай або якой-небудзь іншай, не штучны сурагат, а народная і жывая, якой тады не шмат было ў пецярбургскіх салонах, затое ёю поўнілася народная стыхія, расійская глыбінка. Пушкін быў першы з расійскіх літаратараў, хто не пасаромеўся пусціць яе, занядбаную і пагарджаную, у сваю паэзію, а таксама прозу — ад «Арапа Пятра Вялікага» да несумненнага пушкінскага шэдэўра, знакамітай «Капітанскай дачкі». Ён жа затым і сфармуляваў яе неўміручае крэда: «Точность и краткость — вот первые достоинства прозы. Она требует мыслей и мыслей — без них блестящие выражения ни к чему не служат».

Урокі Пушкіна - празаіка так або інакш адбіліся на творчасці геніяў сусветнай літаратуры, але найперш рускай. Лермантаў, Гогаль, Талстой, Чэхаў, Бунін тварылі пад несум-

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## ЦАНА ЛЮБОВІ—ЛЮБОЎ...

Цана любові—любоў.
Іншай цаны тут няма.
Пушкін любіў Расію.
Любіла паэта яна.
Пушкін любіў Айчыну,
любіў жанчыну, сяброў.
Любоў была ўзаемная.
Цана любові—любоў.
Пушкін любіў Айчыну,
Пушкін любіў жыццё.
Яны ў адказ яму дораць
тое ж пачуццё.
Адзіныя, нераздзельныя
у гэтай любові яны.
Цана любові—любоў.
Іншай няма цаны.
Святло той любові струменіць
над зменаю зім і лет...
Пушкін і Расія. Радзіма і Паэт.

ненным уплывам Пушкіна. Ягонага ўплыву ў гэтым сэнсе не абмінуў ніводзін з сур'ёзных беларускіх пісьменнікаў, асабліва ў ранейшыя дзесяцігоддзі. Гэта цяпер мы распісаліся, і не столькі думак у нашай прозе, колькі слоў і... тамоў.

Але Пушкін вялікі не толькі паэтычнымі або празаічнымі ўрокамі. Усё яго жыццё — змястоўнейшы ўрок этыкі, годнасці і маралі. Нават ягоныя чалавечыя слабасці — урок для многіх пакаленняў наступнікаў усіх часоў і народаў.

Ён быў волатам духу і заставаўся звычайным чалавекам свайго складанага часу. Ён не любіў царскі двор, але не меў сіл адмовіцца ад пакутніцкага жыцця пры ім. Вядома, што за нейкія два гады да сваёй пагібелі ён падаў прашэнне аб адстаўцы, ды хутка ўзяў яго назад. І мы цяпер думаем, як бы інакш склаўся яго лёс, калі б ён выйшаў у адстаўку, паехаў з сям'ёй у сваё Міхайлаўскае... Але не, умяшаліся сябры, і з іх самы лепшы — Жукоўскі. Як гэта нярэдка бывае, — з самых лепшых пачуццяў. Але гэта ўмяшанне павяло паэта прамой дарогай да гібелі.

І ўсё ж ён зрабіў, мабыць, усё, што было яму наканавана лёсам і колькі не суджана было нікому. Праз стагоддзі ён будзе для нас самы першы і самы лепшы з усіх волатаў духу.

драматургію? Пушкін адказваў: чалавек і народ. Суаднесеныя, цесна звязаныя між сабой, гэтыя дзве велічыні вызначаюць шлях да сцэнічнай праўды. І няма нічога больш цікавага і пільнага, як даследаваць жывыя тыпы і характары, адкрываць «ісціну страсцей» сваёй эпохі. Толькі так можна адчуць плынь часу, падступіцца да набалелых праблем, з мерай асабістай адказнасці размаўляць з гледачом.

Мастацтва немагчыма без пераадолення тэматычных клішэ, адпрацаваных схем і завучаных прыёмаў. Асабліва цяпер, калі мы адчыняем вокны насустрач свежым вятрам. «Дух веку, — казаў Пушкін, — патрабуе важных перамен і на сцэне драматычнай». Мы іх таксама прадчуваем, рыхтуем, прагнем. У гэтым апраўданне і сэнс нашых творчых пакут, з гэтым звязаны нашы надзеі.

У пушкінскім сшытку захаваўся аўтарскі малюнак: на гранітнай набярэжнай Нявы стаіць Пушкін разам з Яўгеніем Анегіным. Тварэц і яго тварэнне... Што гэта, жарт генія? Не, хутчэй сакрэт і разгадка цудадзейнай сілы мастацкага ўвасаблення. Калі твой герой становіцца для цябе жывым субяседнікам, можна быць упэўненым, што разам з табой тысячы і тысячы людзей пазераць у яго рэальнае існаванне, будуць з ім спрачацца, раіцца, сябраваць, не зважаючы на старамодны сурдут і крыху архаічныя манеры.

Пушкін ведаў, што «весь он не умрет». Яго паэтычны дар, непадуладны прасторы і часу, стаў набыткам усяго чалавецтва. Каб разумець гэту унікальную з'яву, трэба спасцігнуць не толькі дзівосную гармонію пушкінскіх радкоў, але і пачуць іх галоўную ноту. Гэта быў песняр свабоды. Пушкін, як ніхто, востра і глыбока адчуваў каштоўнасць чалавечай асобы, абараняў яе годнасць.

І не адным толькі пяром! «Невольник чести» ахвяраваў сабой, каб мы, яго патомкі, упэўніліся ў найвышэйшай каштоўнасці чалавечага «я» і ўмелі, калі трэба, пастаяць за свае правы, перакананні, сваю веру ў зямное прызначэнне.

## «Мастацтва сапраўднае заўсёды шчырае...»

**З выступлення народнага мастака СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР М. А. САВІЦКАГА**

Ёсць людзі, дакранаючыся да велічы якіх, ачышчаецца душа. Раз з'явіўшыся на зямлі, азараюць яны яе святлом. І ззянне гэта гарыць не згасаючы і з загадкавай сілай разгараецца ўсё ярчэй, асвятляючы нам наша мінулае і ўказваючы шляхі будучага. Святло, разлітае ў свеце, збірае душы людзей разам і з пранізлівай яснасцю ўвасабляе веліч прызначэння чалавека. Ва ўсе стагоддзі і эпохі звяртаюцца да гэтых людзей і знаходзяць у іх крыніцу сілы і натхнення. Захапляючыся і схіляючыся перад веліччу іх духу, мы дакранаемся да вялікай тайны быцця, паказанай ім. Усёперамагаючай сілай сваёй чалавечнасці гэтыя людзі звяртаюць нас да дабра, і мы свята захоўваем іх імёны. Такі чалавек, які азарыў нашу гісторыю вечным святлом ісціны, дабра і прыгажосці,—Пушкін.

Няма большага спакушэння для чалавека, чым уседамляць сваю выбранасць. І многія, не здолеўшы саўладаць з уласнай душой, аказаліся недастойнымі высокага прызвання мастака. Веліч Пушкіна яшчэ і ў тым, што, усведамляючы сваю выбранасць, ён разумеў яе як абавязак. Бо дар — не ўласнасць генія.

Мастацтва ачышчае душы людзей для таго, каб пераўтварыць іх жыццё. Мастацтва сапраўднае заўсёды шчырае— яго нельга тварыць з нячыстай душой. І таму першы чалавек, душа і жыццё якога пераўтвараюцца мастацтвам,—сам мастак. Веліч генія-мастака непарыўная з веліччу генія-чалавека. Жыццё мастака ёсць адзін—быць можа, галоўны,—з яго твораў. І Пушкін-чалавек гэтак жа вялікі, як Пушкін-мастак.

Нельга зразумець Пушкіна-чалавека, не зразумеўшы яго мастацтва. І гэтак жа мастацтва Пушкіна паўстае перад намі ва ўсёй сваёй велічы толькі асветленае яго асобай. Веліч Пушкіна ў гэтым непарыўным зліцці, у геніяльным пераражджэнні жыцця ў паэзію.

Сапраўднае прызванне заўсёды маральнае. Чым глыбей усведамляе мастак прызначэнне свайго таленту, тым больш сціплы ён як чалавек. Такім быў і Пушкін. Яго прастата, звычайнасць, будзённасць уражвала людзей не менш, чым яго геніяльнасць. Толькі адно выдавала ў ім прарока: яго мова. Яна ўражвала і захапляла, як і яго мастацтва.

У недасягальнай па дасканаласці форме Пушкін сказаў аб прызначэнні мастака на зямлі, аб прызванні мастацтва. Усё трагічнае жыццё яго было ўвасабленнем гэтага прызвання. Ні адна форма мастацтва не магла змясціць яго дару, ні адзін жанр не адпавядаў велічы яго ведаў. Мы можам толькі здагадвацца, як цяжка было Пушкіну-чалавеку несці цяжар усёведання Пушкіна-генія.

Гаварыць аб Пушкіне амаль немагчыма. Немагчыма, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і таму, што словам ён карыстаўся зусім інакш, чым мы. Ён давёў яго да дасканаласці, да цудоўнай гармоніі. «Ён спасцігнуў, што мова не ёсць адвольнасць, не ёсць уласнасць аўтара, а род сутнасці, уліты прыродай рэчаў у іх быццё і формы праяўлення». Ён увасобіў вялікае прызначэнне мастацтва. Таму геній яго невычарпальны, як ісціна, і зразуменне яго бясконцае. Яго жыццё і мастацтва — не проста люстэрка, глядзячы ў якое, людзі ўсіх часоў бачаць, як увасобілася ў іх жыцці паказаная ім прыгажосць. Мастацтва Пушкіна — найярчэйшае ўвасабленне вечнай сілы, якая імкнецца надаць высакароднасць жыццю і павярнуць чалавека да дабра. Гэта вялікая сіла магчыма нідзе не была паказана так проста і разам з тым узвышана, так чароўна і адначасова чалавечна, як у Пушкіна. Толькі ўсвядоміўшы непарыўнасць мастака і чалавека, прарока і паэта, паэзіі і лёсу, можна наблізіцца да таго недаступнага, што вечна азарае святлом людскія душы—да тайны генія.

## «Гэта быў песняр свабоды...»

**З выступлення народнай артысткі БССР Л. М. ДАВІДОВІЧ**

Ён пражыў недаравальна кароткае жыццё. І на шчасце — бязмерна доўгае. Гогаль сказаў аднойчы, што Пушкін — гэта рускі чалавек у яго развіцці, у якім ён, магчыма, з'явіцца праз двесце гадоў... Паэт заўсёды быў разам са сваімі суайчыннікамі. Пакаленне за пакаленнем ён адорваў сонечным запасам святла і душэўнасці. А сёння, як ніколі, Пушкін стаў блізкім нам. Яго вобраз яднаецца з ідэалам свабоднай, гарманічнай, духоўна багатай асобы. Свет пушкінскай паэзіі адкрывае нам рэальнасць адвечнага імкнення да паўнаты і дасканаласці жыцця, ён актыўна адмаўляе бяскрыласць думак, абмежаванасць пачуццяў, убоства душы. Гэта з яго дапамогай мы вучымся любіць і ненавідзець, радавацца і смуткаваць, перажываць і спадзявацца!

Мы атрымалі ў спадчыну не толькі ліру Пушкіна, але і яго музу — разуменне задач і прынцыпаў творчасці, ключ да таямніц прыгажосці. У пераломныя моманты гісторыі, калі ад мастака чакаюць твораў-падзей і слоў-учынкаў, перад намі паўстае пытанне: як памножыць грамадскі патэнцыял мастацтва? Менавіта гэта хвалюе зараз работнікаў тэатральнага цэха краіны. І як надзённа, як сугучна з нашымі пошукамі ўспрымаюцца запаветы вялікага майстра. «Нашему тэатру, — пісаў Пушкін, — адпавядаюць народныя законы...» Гэта ў аднолькавай ступені датычыць і мастацкіх сродкаў, і грамадзянскага зместу спектакля. Ад яго стваральнікаў, папярэджваў Аляксандр Сяргеевіч, патрабуюцца, акрамя смелай, багатай на здагадкі фантазіі, філасофскі кругагляд і дзяржаўнае мысленне. Што жывіць і рухае

## «Паэты вучацца інтэрнацыяналізму...»

**З выступлення лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, паэта Р. БАРАДУЛІНА**

Пушкінская прастата стала сімвалам глыбіні думкі, рускую мову, мову нашага міжнацыянальнага паразумення называюць па праву мовай Пушкіна. І сёння паэт вучыць валодаць рускай мовай усю планету. Такая магутная ўлада стваральніка сучаснай рускай мовы, што, калі чытаеш Пушкіна, пачынаеш думаць па-руску. Гэтакай сілай слова, якая далучае да веры, у нас, у Беларусі, валодаюць хіба кнігі Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. І не выпадкова ўсе маладыя літаратуры інтуітыўна ці свядома пачынаюцца з засваення мацерыка пушкінскай паэзіі. Нацыянальныя паэты вучацца ў першага рускага інтэрнацыяналіста. Гэта Пушкін першым расшчапіў атам самадзяржаўя «единой и неделимой» Расіі, пачуўшы «всяк сущий в ней язык».

Стрэл на Чорнай рэчцы
болем аддаўся ў Беларусі.
А задоўга да чорнага дня
Ёй імя выбірала жалоба,
І туга напілася з шалома,
І згубіла сябе глыбіня.

Учарніла Расіі чало
змрочнай стужкаю
Чорная рэчка.
Свой працяг брала
даўняя спрэчка,
Дзе зацяліся тхло і святло.

У сусвеце славянскіх вачэй,
У славянскай няўтольнасці
сэрцаў,
У свяцілішчах душ аднаверцаў
Чорны стрэл прагрымеў
балючэй.

Толькі кулі відушчай такой
Не было і ніколі не будзе,
Каб прабіла збалелыя грудзі
Справядлівай любові людской.

Ратавала замова радкоў,
Жах ляцеў груганом
з Чорнай рэчкі.
зоркі,
як памінальныя свечкі,
Ціха ўсхліпвалі ў небе вякоў.

## «Працай ён помнік стварыў...»

**З выступлення поўнага кавалера ордэна Працоўнай Славы, дэлегата XXVII з'езда КПСС, мадэльшчыка ВА «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна» Ю. М. ВАХРОМІНА**

Мы жывём у асаблівы час. У час, калі ўладна ўрываецца ў жыццё новае, калі ачышчальнае, свежае паветра перамен стукаецца ў кожны дом, урываецца ў свядомасць кожнага чалавека. Адно з красамоўных сведчанняў гэтага працэсу — тая пільная ўвага, з якой сёння мы ўглядаемся ў вытокі, карані нашай многанацыянальнай культуры, у тое, што складае прадмет патрыятычнай гордасці савецкага чалавека.

Пушкін гэтак жа сучасны для нас, як і дзесяткі гадоў назад. Іменна таму ён зразумелы і даступны кожнаму. І другая рыса, якая родніць усіх нас з Пушкіным, — гэта глыбокая, духоўная блізкасць яго творчасці з народам. У вялікага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага ёсць фраза, якая як нельга лепш ілюструе сказанае: «Памірае чалавек. Народ неўміручы і неўміручы паэт, чые песні — біцце сэрца яго народа».

Што значыць у маім жыцці Пушкін? Рыхтаваўся да выступлення, перабраў у памяці ўсё, некалі пачутае і прачытанае, спрабаваў асэнсаваць па-свойму да мяне сто разоў асэнсаванае, і раптам адчуў, як усю маю істоту пранізвае простая, як праўда, думка: «Што я сам у гэтым свеце значу?»

Мне думаецца, галоўная задача вялікага мастацтва ў тым і заключаецца, каб выклікаць з глыбіні душы чалавечай імкненне задумацца над жыццём, над сваім месцам у ім.

У нас на заводзе дзейнічае патрабавальны калектыўны лозунг, лозунг перабудовы — выпускаць прадукцыю на ўзроўні лепшых сусветных дасягненняў. Ужо ў гэтым годзе амаль палавіну сваіх вырабаў мы выпусцім у адпаведнасці з лепшымі сусветнымі аналагамі. На палях больш чым 70 краін свету будуць працаваць 22 тысячы трактараў маркі «Беларусь», зробленых якасна, як гаворыцца, з рабочай гарантыяй.

Гаворачы аб Пушкіне, аб яго спадчыне, міжволі думаеш: якім жа майстрам трэба быць, каб вынікаў тваёй працы хапіла на многія вякі?

Гэта — вечны ўрок Пушкіна для кожнага з нас, хто рукамі сваімі, розумам, талентам прымнажае багацці нашай сацыялістычнай Айчыны, яе гонар і славу.

## «Са светлым іменем тварца...»

**З выступлення лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, паэтэсы Я. ЯНІШЧЫЦ**

Пры адным толькі імені — Пушкін! — адразу ўзнікае, бяжыць, «красуе дарога. Дарога ў бясконцай плыні часу, дарога, якую блаславіў і пракладваў паэт усёй магутнай сілай свайго таленту. Думаючы пра Пушкіна, чытаючы і перачытваючы яго, перш за ўсё хочацца падзякаваць дарозе, мноству жаданых і ўхабістых дарог, што загартавалі і выхавалі яго геній.

Звяртаючыся да Пушкіна, міжволі пытаеш сябе: дык што ж вось ужо столькі гадоў кліча, вядзе нас да яго? Любоў, роздум, суперажыванне, надзея, споведзь, вера? Баюся, не хопіць зямных азначэнняў.

Пра Пушкіна, пра яго жыццё думаецца заўсёды, калі душа імкнецца да цудоўнага, калі жадае адказу і суцяшэння, калі шукае запаветную ісціну ў агромністым свеце быцця. І ці не таму, што Пушкін увабраў усё, што можа толькі ўвабраць шматпакутнае і любячае сэрца народа. Здзіўляе не толькі геній паэта, здзіўляе яго адвага. Бо ці ж не адвага — арыстакрату па паходжанню!—лезці на вастрыё самадзяржаўнага скіпетра ў пакутлівых росшуках праўды?

Кароткае жыццё Пушкіна было не спавядальна-плаўным эпасам, а драмай. І ўсё ж — колькі аптымізму выкрасала яго сэрца: «Товарищ, верь: взойдет она, звезда пленительного счастья...», «Мой друг, Отчизне посвятим души прекрасные порывы!», або—«Восстань, пророк, и виждь, и внемли...», або: «Но, други, не хочу я умирать: я жить хочу, чтоб мыслить и страдать».

«Мыслить и страдать» — вось што наканавана не толькі паэту, але любому грамадзяніну, калі ён сам не шчаслівейшы за свой народ. Не раз ужо на працягу многіх стагоддзяў трэсла зямлю падземная і нябесная ліхаманка і не раз ужо мы назіралі сваю нямогласць і перад стыхійнымі сіламі прыроды, і перад тою зброяй, якую стварыў чалавек. Нельга не задумацца і над тым, што чалавечая культура становіцца ўсё больш машыннай. Так званае наватарскае ці узурпатарскае процістаянне ў творчасці спараджае той самы небяспечны баявік, пад пагрозай якога і сённяшні стан духоўных набыткаў, і адухоўленая памяць мінулага.

Пушкін — гэта заўсёды жывая з'ява не толькі рускай, але і ўсёй чалавечай культуры. Яго натхнёнае слова заклікае нас да служэння народу. Як ніхто з яго папярэднікаў, Пушкін увайшоў у народ, каб падзяліць і лёс яго, і дарогу. Для многіх пакаленняў такое блізкае і такое недасяжнае свячэнне пушкінскага радка заўсёды з'яўлялася ўзорам бясстрашнага і бескарыслівага служэння Айчыне, роднай культуры.

Аціхлі поле і дуброва.
І дзень, як чорны андарак.
Тваё параненае слова
Імчыць задумлівы вазак.

Як цяжка дыхае свабода...
Ды ўсё ж не стоміць падарож,
Пакорнейшы слуга народа
І воін полымны яго ж!

О не, не скончыліся спрэчкі,
Сыноў не зменелі рады,
Хоць чараты стаяць, як свечкі,
Над Чорнай рэчкаю журбы.

Ты ўсходзіш зноў, паплечнік
славы,
Над тленам звадак і акоў,
Як лёгкі воблак кучаравы,
Як сонца вечнае вякоў!

●

Вечары, прысвечаныя памяці геніяльнага сына Айчыны, прайшлі ў гэты дзень па ўсёй рэспубліцы. У заводскіх і калгасных палацах культуры, кінатэатрах, бібліятэках, школьных і вузаўскіх аўдыторыях паклоннікі яго таленту маглі азнаёміцца з выстаўкамі кніг паэта, прыняць удзел у канцэртных праграмах, дзе гучалі неўміручыя радкі, музыка, напісаная па творах А. С. Пушкіна.

(БЕЛТА).




# ГАЛАСЫ РЭВАЛЮЦЫІ

**Святлана АЛЕКСІЕВІЧ**

*Розныя лёсы ў гэтых людзей. А вось калі паглядзіш на іх твары, дык адразу разумееш, што зроблены яны адным часам. У кожным доме, калі мне разгортвалі старэнькі сямейны альбом, — з пажаўцелых здымкаў глядзела юнацтва Рэвалюцыі.*

*Яны цяпер, вядома, на пенсіі. Лёс да іх паставіўся спагадна, як мала да каго з іх пакалення: прайшоўшы праз дзве вайны, яны засталіся жывыя, дачакаліся не толькі ўнукаў, але і праўнукаў.*

*Вера Саламонаўна Дрыдзо жыве ў Маскве. Лізавета Гаўрылаўна Пераборшчыкава, Феня Ісакаўна Дадзіёмава, Мікалай Яфімавіч Аўхімовіч, Яфім Данілавіч Гапееў, Паліна Аляксандраўна Анькова — у Мінску, Георгій Сяргеевіч Прахін, Іван Францавіч Катковіч — у Магілёве, Васіль Пятровіч Ласковіч — у Гродне, Яфім Іванавіч Батукоў — у пасёлку Елізава Асіповіцкага раёна. Але, паслухаўшы іх, разумееш, што ўсе яны жывуць у Рэвалюцыі. Гэта іхняе юнацтва. Гэта іхняя памяць. Гэта іхняе жыццё.*

*Час ім выпаў такі, што колькі новых пакаленняў ні прыходзіць, усе мы азіраемся на іх: якія ж яны былі? Нам хочацца ўбачыць не толькі справу, але і душу Рэвалюцыі. Калісьці Леў Мікалаевіч Талстой, задумаўшы напісаць раман пра эпоху Пятра I, усё-такі праз нейкі час адмовіўся ад гэтай ідэі. І вытлумачыў гэта тым, што душы людзей таго часу яму незразумелыя.*

*Семдзесят гадоў — гэта далёка, гэта тая адлегласць, якая ўжо завецца гісторыяй. Але аказваецца — гэта жывая гісторыя, яна яшчэ можа ўкласціся ў жыццё аднаго пакалення. Яно сёння на зыходзе, каму пад восемдзесят, каму пад дзевяноста. Але мы, на шчасце, сышліся з імі ў часе...*

**Вера Саламонаўна Дрыдзо,** член партыі з 1919 года.

Бацька мой — прафесійны рэвалюцыянер, ён увесь час быў ці ў падполлі, ці ў ссылцы, ці ў турме. Мама мая не рэвалюцыянерка, але яна памагала. У 1906 годзе яе пасадзілі ў турму, а мяне няма куды дзець, я сядзела з ёй. У той жа турме ў мужчынскім аддзяленні сядзеў бацька. Адзіны час, калі ў мяне была сям'я — і маці, і бацька. Праз фортку, у якую абед падаюць, мяне браў наглядчык, нёс у мужчынскую палову і ў такую фортку падаваў бацьку. Потым прыносіў назад.

Бацька ніколі не павучаў мяне. Ён вучыў дзяцей сваім жыццём, сваім прыкладам. З 1917 года мы ўжо жылі разам. Ён не пытаўся ў мяне: ты ўступіла ў камсамол? Ён быў упэўнены, што інакш і быць не можа. Я ўступіла ў камсамол у лістападзе васемнаццатага года, адразу пасля першага з'езда камсамола. Тады мы былі вельмі падобны на сваіх бацькоў.

А яшчэ мы былі наіўныя. Ну, напрыклад, у камсамоле мы ладзілі суды над танцамі. Я сама старшынявала ў судзе над танцамі. Цяпер у мяне пытаюцца: «Вы ж былі маладыя, няўжо вам не хацелася танцаваць?» Не, нізавошта, нам хацелася рабіць толькі рэвалюцыю. У нас былі такія ўяўленні: калі мы бачылі юнака пры гальштуку, мы лічылі, што гэта недарэзаны буржуй. Таму што нашы рабочыя хлопцы паняцця пра гальштук не мелі. А ўжо не дай бог зрабіць што-небудзь з вейкамі ці пафарбаваць вусны. Як гэта камсамолка фарбуе вусны!

Кожны тыдзень — у нас суботнік ці нядзельнік. Што мы рабілі? На Кіеўскім вакзале, які тады называўся Бранскім, разгружалі дровы, вугаль, брукавалі вуліцу, у шпіталях мылі падлогу, бялізну чырвонаармейцам. У райком камсамола, а я была членам бюро райкома, калі раптам, гэта здаралася вельмі рэдка, зрываўся суботнік, прыходзілі нашы камсамольцы і сварыліся на нас страшэнна: «Эх вы, расцяпы! Эх вы, шляпы! Суботніка не можаце арганізаваць». Каб нехта адмовіўся выканаць камсамольскае даручэнне, такога я не памятаю.

Неяк у гасцях, дзе сядзеў малады выкладчык універсітэта, я з запалам расказвала, што мы робім, які ў нас настрой, ён гэтак скептычна пагледзеў на мяне і сказаў:

— Вось вы ўсё гаворыце, а што вы ўмееце? Вы нічога не ўмееце, нічога не ведаеце. Ну, скажыце мне, якая розніца паміж сацыялістычным і сацыяльным?

Вядома, я гэтага не знала. Але я яму адказала:

— Гэтага я не ведаю, адказаць цяпер не магу. Але я буду ведаць. Затое я вельмі добра ведаю, што калі што-небудзь здарыцца, я вазьму вінтоўку і пайду біць гадаў, а вы будзеце сядзець у закутку і чакаць, чым усё скончыцца.

У нас быў клуб у Неапалімаўскім завулку (гэты двухпавярховы дамок і зараз стаіць), але мы там не танцавалі, хоць і стаяла ў кутку разбітае піяніна, ці раяль, не помню. На ім хто-небудзь з дзяўчатак іграў «Марсельезу», «Смело, товарищи, в ногу!» Мы там вывучалі палітграмату, нам чыталі лекцыі. Працавалі палітгурткі. І абавязкова — гаворкі аб тым, што будзе ў будучыні. І ўсе мы былі шчаслівыя.

Надзела я кепку, бацька даў мне сваё скуранае паліто, і я ўжо — вольная жанчына. Але трэба памятаць, што да рэвалюцыі жанчына нават свайго пашпарта не мела, яе ўпісвалі ў пашпарт бацьку, пасля — мужу. Але зноў жа наша наіўнасць! Мы надзелі кепкі, надзелі гімнасцёркі, і нам здавалася, што ўжо гэта раўнапраўе. Мы лічылі, што каханне — гэта месячнасць і глупства.

Разумею, чаму ўсміхалася Надзея Канстанцінаўна Крупская, калі мяне прывялі да яе для знаёмства — яна шукала сабе сакратара. Сакратаром яна мяне ўзяла, гэта было ў 1919 годзе, і працавала я з ёй да самай яе смерці. Я ведала не толькі Надзею Канстанцінаўну, але, бываючы ў іх дома, ведала і Уладзіміра Ільіча. Памятаю, як заўсёды, калі ішла да іх, баялася, што спытаецца Уладзімір Ільіч што-небудзь пра бягучы палітычны момант, а я наблытаю. Але ён заўсёды распытваў, што робіцца ў камсамоле, чым мы займаемся. Гэта я ведала выдатна.

Калі ўспамінаць пра Надзею Канстанцінаўну, дык можна сказаць, што яе вобраз тыповы для пакалення першых жанчын-бальшавічак. Новую сукенку яе можна было ўгаварыць пашыць толькі да з'езда: «Ну, няёмка з зацыраванымі рукавамі на з'ездзе». Неяк яна мне сказала, што ўмее рабіць дванаццаць гатункаў яечні, і вельмі гэтым ганарылася. Аказалася: яечня з хлебам, яечня з кілбасой... з тым, з тым... Таму што ніхто не ўяўляе, як яны жылі ў эміграцыі. Яны не служылі нідзе. Ва Уладзіміра Ільіча надараўся вельмі зрэдку і вельмі невялікі ганарар. Вы ўяўляеце сабе нашу прэсу бальшавіцкую, тую ж «Искру», у якой яны дні і ночы працавалі. Часам, гаварыла Надзея Канстанцінаўна, надыходзіла асабліва безграшоўе. Яна брала ў якіхсьці фірм падпісваць канверты з рэкламай у Расію. Любую выпадковую работу. Але і яе не было. Даводзілася жыць на партыйныя сродкі. І таму яна эканоміла кожную капейку. Часам даводзілася абысціся адной бульбай, іншым разам адной рыбы за дзесяць сантымаў, гэта тры капейкі, на нашы грошы рускія. Калі яны пераязджалі з Парыжа ў Кракаў, яны мяняліся кватэрамі. Які-небудзь чалавек у Кракаве аддаваў ім сваю кватэру і пераязджаў у іхнюю парыжскую кватэру. Ён прыехаў і ўсё распытваў у Надзеі Канстанцінаўны, колькі каштуе ў Парыжы цяляціна, гусі. Яна смяялася, прыгадваючы, што на такія пытанні ніяк не магла яму адказаць. А колькі каштуе салата ці каніна, той не пытаўся.

Такімі ж сціплымі ў быце людзьмі яны заставаліся і ў савецкі час. Вось што мне расказваў Фёдар Аляксандравіч Гіцье, стары маскоўскі ўрач. Ён наслухаўся балбатні варожай Савецкай уладзе інтэлігенцыі пра тое, як шыкоўна жыве Ленін, якое ў яго царскае застолле і г. д. У дзевятнаццатым годзе яго запрасілі да Леніна, ён паглядзеў хворую Надзею Канстанцінаўну, даў свае рэкамендацыі. Яго запрасілі паабедаць. Падалі толькі першае і другое, порцыі былі такія маленькія, што, як ён прызнаваўся, хацелася папрасіць дабаўкі, але бачыў, што ва ўсіх такія ж маленькія порцыі. І ва Уладзіміра Ільіча, і ў Надзеі Канстанцінаўны, і ў Марыі Ільінічны. І ніхто дабаўкі не просіць. Прыехаў дадому, добра паабедаў, і пасля гэтага пры ім ужо ніхто не рашаўся гаварыць, што Ленін і яго сям'я жывуць не так, як усе. А я гэтага не бачыла і не заўважала, бо я была маладая. Мы самі елі суп з хвастоў воблы.

А яшчэ трэба ведаць, што тады такія рэчы, як сукенка, харч, у той час мала што значылі, амаль нічога не значылі. На гэта аніякай увагі. Іншая справа — ідэі, дзеля якіх жывеш. Вышэй за ідэю не было анічога. Па-мойму, гэта пра наша пакаленне: «одной лишь думы власть, одну, но пламенную страсть»... Праз усё жыццё...

*Рэвалюцыя запатрабавала не толькі ахвяр, але і працы. Акрамя перамогі ваеннай і палітычнай, яшчэ патрэбны былі перамогі кадравыя, эканамічныя, культурныя. Вялікай была праца Рэвалюцыі.*

**Іван Францавіч Катковіч,** член партыі з 1920 года.

...Банды Махно, Сакалова, Маруські... Дваццаты год... Я ў прадатрадзе... Прадразвёрстка... Хлеб патрэбен Кіеву, Харкаву, Маскве... Хлеб патрэбен галадаючым гарадам, галадаючым заводам, галадаючаму пралетарыяту, а яго няма... Вёска не дае... Кулак не дае...

Прыязджаем у вёску, збіраем членаў камітэта беднаты. Вырашаем, колькі двароў — столькі ж пудоў збожжа трэба здаць дзяржаве. Дзвесце двароў — гэта сто-дзвесце пудоў збожжа. Затым склікаем сход, на сход прыходзяць усе, прыходзяць акуратна. Аб'яўляем: колькі якому двару здаць збожжа. Даём два-тры дні тэрміну. Чакаем. Праходзіць дзень — ніхто не вязе, праходзіць другі — не вязе, трэці...

Пачынаем шукаць... Хавалі ў скляпах, у стагах сена, у лесе, на могілках... Быў нават харчовы трыбунал... Тут жа, на месцы, судзілі... Добра, калі прадармейцы з намі... Яны добра ўзброены... Армія... А прыедзем самі, нам кажуць: «Начаваць вам нельга. Альбо ўсю ноч пераходзьце з хаты ў хату. Мы не можам вас абараніць. Заб'юць...»

А то... Колькі выпадкаў было. Прыедзем у вёску, а там ужо кагосьці з нашых прадатрадаўцаў забілі... І не проста заб'юць... Жывот разрэжуць, пшаніцы туды насыплюць.. А зверху чым-небудзь напішуць: «Прадразвёрстка выканана...»

**Яфім Данілавіч Гапееў,** член партыі з 1932 года.

...Прыйшоў сусед і гаворыць дзеду:

— Здымай са сцяны Мікалашку... Яго прагналі ўжо...

Дзед не паверыў:

— Каго? Цара? Ці не звар'яцеў ты, гэта ж людзі між сабою перагрызуцца, як цара не будзе...

— Здымай! Здымай! У Юхнаўцы маёнтак падпалілі... Памешчыка мужыкі ўтапілі... Звяруга быў...

Неўзабаве і я ўбачыў, як палілі ў нас памешчыцкі маёнтак. Было радасна, што скончыўся ненавісны час, пачынаецца новы... Чырвонае вогнішча... І за бальшавікоў мы галасавалі чырвонымі бюлетэнямі... Усё было чырвонае...

Паявіўся ў нашых мясцінах Шчорс. Пра яго хадзілі легенды. У вёсцы мужчыны так казалі:

— Ёсць такі чырвоны камандзір, дзе б ні паявіўся, яго аніштo не бярэ. Яго ні снарад, ні куля, ні шабля не бярэ. Аб'язджае ён на кані і кажа: «Страляйце». Страляюць і ніхто пацэліць не можа. Вось такія ў Чырвонай Арміі камандзіры.

Сабралася наша моладзь, стала прасіцца ў атрад да Шчорса. А нам адказалі: «Хлопцы, ствараўце ў сябе ў вёсцы культрапом і ліквідуйце непісьменнасць. Вось дзе сёння другі фронт...»

Мы разбілі непісьменных на дзесяткі, і трэба было навучыць кожнага чытаць па складах і лічыць да дзесяці, і каб распісацца навучыліся. Людзі ішлі з вялікаю ахвотаю. Яны плакалі, асабліва жанчыны: гэта ж яна сама зможа напісаць пісьмо. Першыя словы, якія яны пісалі, гэта: Ленін, рэвалюцыя... Сядзелі старыя жанчыны, пісалі і плакалі...

Увесь год мы з імі займаліся, а вясной яны здалі экзамены. Мне выдалі прэмію — па рублю за кожнага чалавека, на той час гэта былі вялікія грошы. Я абрадаваўся, што змагу купіць гармонік. Даўно хацеў купіць двухрадны гармонік нямецкага ладу. Ён мне быў патрэбен, каб сабраць вакол сябе моладзь, сагітаваць яе. Была ў мяне мара — арганізаваць маладзёжную камуну... Хацелася хутчэй пачаць новае прыгожае жыццё...

**Георгій Сяргеевіч Прахін,** член партыі з 1923 года.

...Дзевятнаццаты год... Гэта галадоўля. У дзевятнаццатым годзе зусім не той хлеб, што ў шаснаццатым, семнаццатым. Хлеб з мякінай, яго не ўгрызеш. Эпідэмія... Тыф... Зваротны тыф, галаўны тыф... Іх было шмат... Мы ўсе перахварэлі... А настрой быў такі — калі падымуся, адразу ж пайду на фронт.

У чэрвені дваццатага года на зборным пункце атрымаў абмундзіраванне... Вы не паверыце: спякота, смаліць сонца, а нам далі прашываную ватоўку, ватовыя штаны і замест ботаў лапці з анучамі. У мяне, праўда, былі чаравікі, ад старэйшага брата перайшлі. Яшчэ шапку «дабрыдзень — бывай», ззаду і спераду брылёк. Але далі — вінтоўку! І мы сябе адчувалі абаронцамі рэвалюцыі!

Смалявічы... Гэта побач з Мінскам, там, не ведаю, ці ёсць цяпер, а тады быў торфазавод «Пралетарская перамога». Мы прыйшлі туды, адагналі белапалякаў... Там ляжаць нашы чырвонаармейцы... Шаснаццаць чалавек... У ватовых штанах, у лапцях... На лбе і на грудзях у кожнага выразаны зоркі... Дзве чырвоныя зоркі...

*У кожным новым лёсе шукаю галоўнае: якія ж яны, людзі Рэвалюцыі, якія іх душы? Апошняе сёння асабліва важна, таму што мы нарэшце знайшлі ў сабе сілы чэсна прызнацца, што многія ідэалы ў нашым жыцці растварыліся, размыліся, зніклі, і іх трэба вярнуць, ачысціць, убачыць нанава.*

*Убачым жа іхнімі вачамі. Убачым іх і сябе.*

**Феня Ісакаўна Дадзіёмава,** член партыі з 1927 года.

Жыла наша сям'я ў мястэчку Ветка (цяпер гэта раённы цэнтр Гомельскай вобласці). Дзяцей — дванаццаць штук, гэта бацька так жартаваў, калі ў яго пыталіся, ці вялікая ў нас сям'я. Бацька быў малапісьменны, але «Капітал» Маркса чытаў.

У дваццаць чацвёртым годзе ў нашым родзе было ўжо чатырнаццаць камуністаў на чале з бацькам, браты з жонкамі, сёстры з мужамі, мой брат. Усе жартавалі: «Дадзіёмаў, у цябе свая партячэйка». У дваццатым годзе ў нас ужо камсамол, і я, вядома, ужо камсамолка. Усе хлопцы нашы пайшлі на фронт, грымела грамадзянская вайна, асталося нас восем дзяўчат, адна за другую маладзейшая. Самай старэйшай — шаснаццаць, астатнім — па чатырнаццаць.

Мы ўсе хадзілі ў зрэбным, фарбавалі яго ў адвары з шалупіння цыбулі, як велікодныя яйкі, і шылі спадніцы, кофты. Усё са зрэб'я. Я нават туфлі сабе з палатніны пашыла, а падэшва была кардонная, і аборачкамі падвязвала. Сябравала я з Марыяй, ёй пятнаццаць гадоў было, мая лепшая сяброўка. І вось гэтая Марыя прыйшла на камсамольскі сход у шаўковай сукенцы. Мы ўсе ў зрэбным, і яна так хадзіла, і раптам! — шаўковая сукенка. Яе бабуля насіла салоп, тады насілі салопы, верх у яго суконны, цяпер гэта сацін называецца, а падшэўка — шаўковая. Бабуля памёрла, і маці гэтай дзяўчынкі пашыла ёй з шоўку сукенку.

Уяўляеце: я — сакратар ячэйкі, а мая лепшая сяброўка мяне падводзіць. Стаўлю пытан-

(Працяг на стар. 13).

**У нашай рэспубліцы нядаўна пабываў кітайскі пісьменнік, перакладчык славянскіх літаратур, прафесар Гэ Баоцюань. Госць пазнаёміўся са знакамітымі мясцінамі, у прыватнасці, наведаў Вязынку, меў гутарку ў Саюзе пісьменнікаў БССР.**

## Гэ БАОЦЮАНЬ:

# «КУПАЛАВЫ СЦЕЖКІ СЯГАЮЦЬ ДА КІТАЯ»



У час гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў БССР Злева направа: Віктар Казько, Васіль Зуёнак, Алесь Асіпенка, Ніл Гілевіч, Гэ Баоцюань.
Фота Ул. КРУКА.

**Сваё падарожжа Гэ Баоцюань пачаў з наведання купалаўскіх мясцін. У Вязынцы, у Купалавай хаце, ён паводзіў сябе пачціва-сцішана, як у храме, і, на адыход, папрасіў дазволу прачытаць верш паэта «Мая хатка»:**

— Я хачу, каб у гэтым доме прагучаў верш Янкі Купалы на кітайскай мове.

**У Мінску, у Літаратурным музеі Янкі Купалы, мяне здзівіла выдатнае веданне кітайскім госцем творчасці нашага песняра. Я маю на ўвазе веданне не толькі творчага шляху, асноўных твораў паэта, але і таго, што за імі стаіць, прычын іх з'яўлення, уменне супаставіць гэтыя творы са з'явамі іншых літаратур і г. д. Так, не паспела экскурсавод пералічыць усіх удзельнікаў беспасадачнага пералёту па маршруце Масква—Далёкі Усход, упамянуўшы толькі імя Валянціны Грызадубавай, як Гэ Баоцюань назваў верш — «Тры арліцы». А ўбачыўшы на стэндзе фатаграфіі выканаўцаў ролі «Паўлінкі», сказаў: «Як я быў у Кіеве і глядзеў «Наталку-палтаўку», прыгадалася «Паўлінка» — абедзве п'есы пра вечны канфлікт бацькоў і дзяцей».**

**Пасля завяршэння экскурсіі ён прачытаў «А хто там ідзе?» і дадаў, што верш змешчаны на пачатку кнігі. Затым расказаў:**

— У 1944 годзе з Замежнай камісіі Саюза пісьменнікаў СССР нам прыслалі кнігу выбраных твораў Янкі Купалы, выдадзеную ў Маскве ў 1943 годзе. Мы вельмі ўзрадаваліся, калі атрымалі яе. Гэта было, па сутнасці, наша першае знаёмства з беларускай паэзіяй. Тады мы і прачыталі «А хто там ідзе?» — гэты дарэвалюцыйны гімн беларусаў, даведаліся, што твор высока ацаніў Максім Горкі. Ужо чытаючы першыя вершы, мы зразумелі, што Янку Купалу трэба перакладаць. Да рэвалюцыі беларускі народ жыў пад нацыянальным і сацыяльна-эканамічным уціскам. А кітайскае сялянства спазнала прыгнёт феадалізму і эксплуатацыі памешчыкаў. Мы адразу адчулі гэта падабенства, нягледзячы на тое, што паміж намі тысячы гор і тысячы рэк. Янка Купала пісаў пра галечу, гора беларускага мужыка. Яго вершы былі зразумелыя нам, і мы паверылі, што яны знойдуць дарогу да кітайскага чытача. Адначасова Янка Купала адлюстраваў спадзяванні і надзеі беларускага народа на незалежнасць і свабоду. Мы атрымалі купалаўскі зборнік у час антыяпонскай вайны, а беларускі народ вёў тады барацьбу з нямецкім фашызмам.

Дарэчы, зусім нядаўна ў Пекіне, у савецкім пасольстве я глядзеў ваш фільм «Ідзі і глядзі». Фільм вельмі моцны, робіць уражанне. Калі я глядзеў яго, то ў думках вяртаўся да таго, што японскія мілітарысты рабілі ў нас — забівалі, палілі вёскі і гарады, рабавалі. У час вайны (1937—1945) на маёй радзіме ў г. Нанкіне японскія агрэсары забілі звыш 10 тысяч кітайцаў, яны нават арганізавалі такое спаборніцтва: хто адсячэ больш за ўсіх чалавечых галоў, той герой. У героях хадзіў салдат, які адсякаў больш за сто галоў кітайцаў. Жудаснае, крывавае варварства бачыў я ў фільме аб тым, як было ў вас, і думаў— вельмі ж знаёмы нам малюнак. Наш народ, як і ваш, шмат зведаў, нацярпеўся. Словам, нямецкія захопнікі рабілі тое на Захадзе, што японскія — на Усходзе. Мы ніколі не забудзем гэтага. І мы ўпэўнены, што ў рэшце рэшт мір пераможа вайну. Мяне асабіста пераканала ў гэтым і тое, што я бачыў у вашым Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Тут я стаў лепш разумець вынікі мужнасці і гераізму беларускага народа, яго адданасць справе міру і будаўніцтва новага жыцця. Хачу зазначыць тут, што ў час антыяпонскай вайны Купалава слова да беларускіх партызан натхняла і нас. І ў сорак пятым годзе ў часовай тады сталіцы Кітая Чунцыне мы выдалі выбраныя творы Янкі Купалы пад назвай «Жалейка». Вершы пераклаў на кітайскую мову Чжу Цзі, у асноўным ён браў творы дарэвалюцыйнага часу, я рэдагаваў іх і напісаў вялікую прадмову. — яна заняла пяцьдзесят шэсць старонак — пра жыццёвы і творчы шлях паэта.

У гэтым артыкуле я даў некалькі твораў у сваім перакладзе, бо лічыў вельмі важным пазнаёміць кітайскага чытача з такімі выдатнымі рэчамі, як «Я не для вас, паны, о не», «Мая навука», «Трэба нам песень», з паасобнымі ўрыўкамі з паэмы «Над ракою Арэсай» і з вершаў «Сыходзіш, вёска, з яснай явы», «Хлопчык і лётчык», са звароту «Партызаны, партызаны...», з артыкула «Германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа». Уступны артыкул я закончыў раздзелам пра мову Янкі Купалы. Разам з Багушэвічам, Коласам, Цёткай ён даказаў, што беларуская мова — гэта не мужыцкая мова, а мова народа. На гэтай мове ён выказаў гора, шчасце і радасць народа, адметнасць беларускай зямлі. Яго паэзія — гэта панароднаму шчырая лірыка, яна адлюстроўвае душу народа, характар прыроды, сярод якой ён жыве. Яго паэзія — гэта нібы музыка. Думаю, што ў гісторыі беларускай літаратуры яшчэ няма паэта, роўнага яму.

**— Ці можаце ўжо зараз сказаць, што Вам дало знаёмства з Купалавымі мясцінамі?—спытаў я.**

— Купалаву паэзію я ведаў, але не мог сказаць, што яна мая. А цяпер кажу: яна — мая.

У Савецкім Саюзе я ўжо адзінаццаты раз, езджу з 1935 года. Бываў у многіх саюзных рэспубліках, а ў Беларусь прыехаў упершыню. Наведаў магілу Янкі Купалы. Я іду сцежкамі Янкі Купалы. Гэты прыезд вельмі важны для мяне, ён даў магчымасць глыбей і бліжэй зразумець творчасць паэта. Як бачыце, Купалавы сцежкі сягаюць аж да Кітая. Я ўжо казаў пра «Жалейку» сорак пятага года, яе другое выданне выйшла ў 1958 годзе ў Шанхаі, там жа выйшаў і «Зборнік вершаў» паэта. З паэм мы выдалі «Над ракою Арэсай». У 1984 годзе ў горадзе Чанша выйшла «Выбраная савецкая лірыка» пад маёй рэдакцыяй і з маёй прадмовай. У кнігу мы ўключылі паэму Янкі Купалы «Бандароўна», а таксама сем вершаў Петруся Броўкі ў перакладзе Ван Шаўнэня. Я лічу, што цяпер магу рыхтавацца да выдання новы зборнік паэзіі Янкі Купалы ў сваім перакладзе і непасрэдна з беларускай мовы.

**Потым, у час сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, не раз, як кажуць, з абодвух бакоў падкрэслівалася, што Янка Купала не толькі па-грамадзянску пафасны, сацыяльны паэт. Яму ўласцівы рысы вялікіх паэтаў — паэт-мысліцель, паэт-філосаф, паэт глыбокага гуманістычнага зместу.**

**Мастацтва кожны ўспрымае па-свойму, праз сябе. Але я неаднойчы лавіў сябе на думцы, што погляды на задачы мастацтва, літаратуры ў кітайскага госця і ў нас супадаюць. Так, ён выказаў сваё захапленне фальклорна-харэаграфічнай кампазіцыяй «Каляда ідзе» ў выкананні студэнтаў Мінскага інстытута культуры.**

— У кожнага народа свае традыцыі, іх трэба шанаваць,— працягваў гаворку Гэ Баоцюань. — У нас некаторыя маладыя пішуць, як мы называем, «туманную» паэзію. Яе разумее хіба толькі аўтар. Гэтакіх нямала. Лепшыя прадстаўнікі нацыянальнай літаратуры не паддаюцца чужому ўплыву і пішуць у традыцыйнай форме.

**На пытанне, калі пачалося гэтае мадэрнісцкае захапленне, Гэ Баоцюань адказаў:**

— Нядаўна. У нас моцная проза, праблемная, асабліва глыбока яна аналізуе «культурную рэвалюцыю», яе вынікі.

**— Вас закранула «культурная рэвалюцыя»? — пацікавіўся я.**

— Не толькі мяне. Адпраўлены былі на перавыхаванне ў вёску ўсе пісьменнікі, мастакі, акцёры. Было пакінута толькі восем узорных балетных і оперных спектакляў. Я два гады адпрацаваў на вёсцы паштальёнам, хадзіў штодзень у пасёлак за пяць кіламетраў і вяртаўся назад, каб разнесці пошту. Мне было шэсцьдзесят год. Цяпер партыяй прынята рэзалюцыя, у якой сказана пра канчатковае адмаўленне «культурнай рэвалюцыі».

**Гэ Баоцюань расказаў, што ён нарадзіўся 15 лютага 1913 года ў правінцыі Цзянсу, у сям'і педагога. Скончыў універсітэт Дася ў Шанхаі ў 1932 годзе. У 1935—1937 гг. быў карэспандэнтам газеты «Дагунбао» і шэрагу прагрэсіўных часопісаў у Маскве. У час антыяпонскай вайны, у 1938—1945 гадах, працаваў у рэдакцыі органа Кампартыі Кітая «Сіньхуа жыбао», што выходзіла ва Ухані і Чунцыне, у якасці рэдактара і члена рэдкалегіі, адначасова быў членам праўлення Таварыства кітайска-савецкай дружбы. Пасля заканчэння вайны працаваў у выдавецтвах «Жыццё» і «Эпоха» ў Шанхаі. У 1949 годзе быў карэспандэнтам агенцтва «Сіньхуа» ў Маскве. Пасля стварэння КНР, у 1949—1954 гг. працаваў у кітайскім пасольстве ў Маскве ў якасці Часовага паверанага ў справах і саветніка. З 1954 года да 1960 — намеснік генеральнага сакратара праўлення Таварыства кітайска-савецкай дружбы. З 1959 года і да гэтага часу працуе спачатку старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Кітая, а затым — у Інстытуце замежнай літаратуры Акадэміі грамадскіх навук Кітая.**

**Гэ Баоцюань з'яўляецца навуковым саветнікам Акадэміі грамадскіх навук правінцыі Цзянсу, членам праўлення Усекітайскай федэрацыі работнікаў культуры і мастацтва, членам праўлення Саюза кітайскіх пісьменнікаў, членам праўлення Таварыства кітайска-савецкай дружбы, намеснікам старшыні Таварыства даследчыкаў рускай і савецкай літаратуры, ганаровым рэктарам і прафесарам звыш дзесяці вышэйшых навучальных устаноў.**

**З пачатку 30-х гадоў Гэ Баоцюань працуе над перакладамі і вывучае замежную літаратуру, асабліва рускую класічную і савецкую. Яго асноўныя працы: «Гутаркі пра Савецкі Саюз», «Гутаркі пра савецкую літаратуру», «Грэчаская і рымская міфалогія ў творах Маркса і Энгельса», «Месца Лу Сіня ў сусветнай літаратуры» і інш. Ён прысвячае шэраг работ вывучэнню сувязей з кітайскай культурай творчасці Пушкіна, Ганчарова, Тургенева, Талстога, Чэхава, Горкага, Маякоўскага, Шэкспіра, Тагора, Ралана. Ён прааналізаваў кітайскія пераклады эзопаўскіх баек у XVII стагоддзі ў час дынастыі Мін. На творчым рахунку Гэ Баоцюаня пераклады: «Выбраныя лірыка» А. С. Пушкіна, «Казкі Пушкіна», «Выбранае з «Кабзара» Т. Р. Шаўчэнкі, «Горкі пра літаратуру». «Дванаццаць» А. Блока, «Выбраная публіцыстыка» І. Эрэнбурга — усяго больш за пяцьдзесят кніг.**

**У 1986 годзе Гэ Баоцюань падарыў сваёй радзіме — правінцыі Цзянсу — 20 тысяч кніг (большасць з іх на рускай мове). Гэтыя кнігі цяпер захоўваюцца ў Нанкінскай бібліятэцы. У Кітаі створаны фонд прэмій імя Гэ Баоцюаня за лепшы мастацкі пераклад, якімі ўзнагароджваюцца маладыя перакладчыкі.**

**— Відаць, праца над перакладамі Янкі Купалы праклала Вам сцежку да паэзіі Максіма Танка?**

— Так. З Максімам Танкам я пазнаёміўся ў Чэхаславакіі ў красавіку 1949 года на Сусветным кангрэсе міру. Гэта быў першы такі кангрэс. Ён праходзіў адначасова ў Парыжы і Празе. Пасля Усесаюзнае таварыства культурных сувязей запрасіла нас у Маскву для ўдзелу ў першамайскіх святах. Помню, як толькі Яўген Іванавіч зайшоў у самалёт, мы жартавалі: «Танк заваладаў самалётам». А ў пяцьдзесят шостым годзе Танк прыехаў у Кітай у складзе дэлегацыі дзеячаў савецкай культуры, якую ўзначальваў Усевалад Кочатаў. У той час я працаваў у Цэнтральным праўленні Таварыства кітайска-савецкай дружбы намеснікам генеральнага сакратара. Я суправаджаў дэлегацыю па ўсёй краіне. Мы былі ў Пекіне, Шанхаі, Ухані, Кантоне і іншых гарадах. Тады каля горада Ухань праз раку Янцзы кітайцы пры дапамозе савецкіх спецыялістаў пабудавалі мост. Мы ўсе прысутнічалі на цырымоніі адкрыцця моста. Пад уражаннем гэтага дня Танк напісаў верш «Сярэбраныя каралі». Я адразу пераклаў твор на кітайскую мову — ён быў надрукаваны ў газеце «Ухань-жыбао». Пасля вяртання ў Савецкі Саюз Максім Танк напісаў яшчэ некалькі вершаў пра Кітай і даслаў іх мне. Дарэчы, я прывёз ксеракопію пісьма паэта да мяне. Напісана яно амаль трыццаць год назад — 15 сакавіка 1958 года. Час бяжыць, як вада. Вада ж цячэ быстра і не вяртаецца ніколі. Прачытайце, калі ласка, гэты ліст.

**І я чытаю:**

**«Дарагі тав. Гэ Баоцюань! Я столькі пражыў у Вас незабыўных мінут, што сёння паездка па Вашай цудоўнай краіне здаецца казачным сном. Добра, што я, паверыўшы мудрай кітайскай прымаўцы пра дрэннае чарніла і памяць, усё стараўся запісаць. Я часта цяпер вяртаюся да гэтых сваіх дарожных запісаў і фотаздымкаў і кожны раз мне здаецца, што я зноў размаўляю з Вамі. Зараз я прыступіў да работы над вялікім цыклам вершаў пра Кітай. Першая частка гэтага цыкла будзе надрукавана ў красавіцкім нумары беларускага літаратурнага часопіса «Полымя», другая частка — у наступных нумарах.**

**Даруйце, што я не змог раней выслаць Вам падрадкоўнікі для свайго зборніка, бо мне хацелася паслаць Вам новыя свае вершы, прысвечаныя краіне маіх сяброў — Кітаю. Я дасылаю Вам рускія пераклады, якія могуць служыць падрадкоўнікамі. Прасіў бы Вас у новы цыкл вершаў уключыць тры вершы, якія я напісаў яшчэ ў Пекіне і над возерам Дынху, гэта: «Ля варот Цяньаньмынь», «Сярэбраныя каралі» і «Тост». Яны друкаваліся ў Вашым перакладзе і тав. Гао Мана. Буду рады, калі прыйдуцца даспадобы Вам гэтыя вершы, добра, калі Вы прышлеце і свае крытычныя заўвагі. Моцна ціснү Вашу руку. З братэрскім прывітаннем — Максім Танк».**

— Зборнік паэзіі Максіма Танка выйшаў у Пекіне ў 1958 годзе. Пераклаў я яго разам з маім малодшым калегам Гао Манам, — пракаменціраваў ліст Гэ Баоцюань.

**— Як была ўспрынята яго паэзія ў Кітаі?**

— Вершы Максіма Танка простыя, зразумелыя і блізкія нам. Гэта быў друг з Савецкага Саюза. Мы лічым, што ваш паэт стаў сябрам кітайскага народа.

**— Хочацца дадаць тут, што зборнік вершаў Максіма Танка, цалкам прысвечаны Кітаю, — «Восток зарёй пылает» — выйшаў у 1959 годзе ў Маскве ў перакладзе на рускую мову Якава Хелемскага.**

**Разам з Гэ Баоцюанем мы гартаем бібліяграфічныя даведнікі і бачым, што ў 40—50-я гады ў Беларусі выходзіла нямала кніжак кітайскіх пісьменнікаў. На жаль, у наступныя два дзесяцігоддзі ў літаратурных кантактах быў перапынак. У першай палове 80-х гадоў зноў пачалося ажыўленне ўзаемных творчых кантактаў. Я расказваю госцю, што ў 1985 годзе быў разам з празаікам Віктарам Казько на міжнародным кніжным кірмашы ў Маскве, і там нас прыемна ўразіў стэнд савецкай літаратуры ў кітайскім павільёне, дзе было выстаўлена шэсць новых кніжак беларускіх пісьменнікаў (творы В. Быкава, І. Мележа, І. Шамякіна).**

**У час сустрэчы ў СП БССР госцю былі падораны кнігі. Кожную з іх ён браў паасобку, гартаў, захапляўся ілюстрацыямі, паліграфічным выкананнем (пра афармленне «Выбранага» Янкі Купалы сказаў: «Гэтыя ілюстрацыі можна скарыстаць у Кітаі»), а пасля, прыклаўшы руку да сэрца і пакланіўшыся, падзякаваў. Ва ўсім адчуваліся душэўная далікатнасць і прыгажосць чалавека, які, так беручы падарункі, будзе потым з такой жа асалодай паказваць іх у сваёй краіне, перакладаць гэтыя творы на мову свайго народа.**

Аляксей ГАРДЗІЦКІ.

І граніт, і пясок.
Я веру, мой след адшукаеш, сынок».

І сын, куды б клопат яго ні закінуў, —
Спыняўся ля брацкіх магіл на хвіліну
І прагна чытаў
На граніце імёны:
«А можа, мой бацька між іх памянёны?
А можа, праз гэтулькі летаў і зім
Тут раптам знайду,
Тут сустрэнуся з ім?..»

Ды чуўся прыглушаны голас граніту:
«Не тут ён забіты,
Не тут ён забіты...»

І зорка, што вогненна ўвысь узнялася,
Цьмянела:
«Не тут яго кроў пралілася...»
І суха пясок шапацеў надкурганны:
«Не тут пахаваны,
Не тут пахаваны...»

●

Над Эльбаю ранак
Блакіт расхінуў яснавока.
І лёгкім хмурынкам —
Высока.
І спевам птушыным —
Шырока.
І плошчаў і сквераў
Абновай зялёнай, квяцістай
Каменна-задумлівы Дрэздэн
Сустрэў экскурсантаў-турыстаў —
Гасцей з Беларусі,
Сяброў і братоў...
Ідуць яны плошчай,
Над імі ж —
Гамонка вятроў і лістоў.
Такі ж, як і дома,
Над імі у сонцы блакіт,
І дыхае свежасцю весняй
Свавольны вятрыска
З ракі.
Ён, Дрэздэн,
Гасцей сустракае —
І выслаў наперад раку:
Як бохан той,
Сонца трымае
На хвалі —
Сінюткім сваім ручніку.
Над Эльбаю ранак
Блакіт расхінуў яснавока.
Ідуць яны...
Дораць усмешкі...
Чужая гамонка навокал...
Над Эльбаю ранак —
Звычайны для ўсіх краявід.
Чаму замаўчаў нечакана,
Нібыта задумаўся гід?
І раптам спыніўся,
І група на месцы застыла —
Стаялі яны перад помнікам,
Брацкай магілай.
Віруе агонь... Мармуровыя пліты...
*І золата сонца, і золата літар...*
Імёны, імёны... Міколы часцей
ды Іваны —
Байцы-вызваліцелі нашы
На гэтай зямлі пахаваны.
Імёны, імёны...
Рыгоры, Вано, Браніславы —
Айчыны сыны-пабрацімы,
Сыны нашай доблеснай славы.
І раптам затахкала сэрца:
На мармуры шэрым, халодным
Застыў яго позірк
На прозвішчы,
Гэткім знаёмым і родным!
Застыў, як прыкуты,
Знямелі, бы ў роспачы, рукі,
І толькі збялелыя губы
Чытаюць-вышэптваюць: «Стукін...»
І толькі надзея,
Пакутная гэта надзея,
Ў ягоныя вочы і сэрца
Праз даль,
Праз гады
Паглядзела.
Асколкамі промняў заззяла
Над ціхай дамоўкай салдата.
А губы, а губы шапталі:
— Я верыў, што ўбачымся, тата.
Адно не чакаў я,
Адно мне было невядома,
Што гэтак далёка
Сустрэну ад роднага дому.

...Маўчалі турысты —
Сябры і браты з Беларусі.
А сын да пліты мармуровай,
Нібы да грудзей прыхінуўся:
Здалося, праз камень,
Праз цемру,
Праз жвір,
Небыццё —
Бацькоўскага сэрца пачуў ён біццё.
І голас, здаецца, пачуў ён,
Прыглушаны жвірам,
*Ды блізкі:*
«Ты помніш, казаў я —
Сустрэнемся ля абеліска?
Як рос,
Як жылося, мой сынку?
Які ты сабою?
Даруй, я не бачу цябе —
Запарушаны вочы зямлёю.
Такім,
Як пакінуў вайною, —
Такім толькі бачу:
То звонка смяешся на ранку,
То зойдзешся раптам ад плачу...»
— Даруй мне і ты:
Я ж таксама, цябе я таксама
І чую, і бачу такім,
Як у смутку расказвала мама:
«Чарнявы сабой, кучаравы.
А рукі —
Умелі усё, без прынукі
Нястомна да справы гарнуліся —
Быў працавіты...»
Павер, ты праз годы
Ні мною,
Ні ўнукам тваім
Не забыты...
Парай, што матулі сказаць,
Як дахаты вярнуся.
Прызнацца ёй шчыра,
Павер мне, баюся, баюся.
Яна ж не забыла, дагэтуль чакае
і верыць:
Ты вернешся, тата,
Пастукаеш раптам у дзверы,
Ты недзе жывы, не згарэў,
Не засыпан чужою зямлёю,
А проста дарога з вайны
Стала доўгай бясконца,
Крутою!
Ці трэба надзею,
Што весніцца ў сэрцы,
Згасіць назаўжды?..
«Сынок, я цябе зразумеў...
Я кахаў яе моцна,
І ведаю, любіш і ты...
Павер, будзе лепш,
Як пачуе, дазнаецца праўду ўсю,
праўду,
Салдацкую горкую праўду,
Што вышай за смерць і за здраду.
Я поля вайны не пакінуў,
Цябе і яе не пакінуў:
Я міру і шчасця хацеў на зямлі,
І за гэта загінуў.
Яшчэ папрашу: ад мяне
Абеліскам на роднай зямлі пакланіся—
Сябры франтавыя мае
Там, сынок, назаўжды засталіся...»

...Стаялі мужчыны ў маўчанні,
Стаялі жанчыны у скрусе —
І чэхі, і немцы, а з імі
Сябры і браты з Беларусі.
Набегла хмурынка. Дажджынкі
Па золаце літар сцякалі —
Нібыта расстання слязінкі
Прабіліся раптам праз камень.

самае і я рабіў. Прынамсі, да аварыі ў Чарнобылі, да таго, як пабываў пасля яе ў родных мясцінах, дзе вырас, дзе прайшло маё маленства, і на свае вочы ўбачыў, што цяпер там...

І самыя прыемныя ўспаміны сталі самымі горкімі, балючымі...

Таму, можа, у мяне і бяссонніца, амаль не сплю па начах...

## ПЯТРУСЬ, ЁН ЖА — ПЁТР АДАМАВІЧ...

У сярэдняй школе мы вучыліся з ім у адным класе. І нават быццам трохі сябравалі. Ва ўсякім выпадку, калі аставаліся адзін на адзін, ён раскрываў сваю душу — любіў паразважаць, памарыць аб будучыні.

— Не ведаю, як ты, — казаў ён ціхім, задуменным голасам, — а я даўно ўжо выбраў сабе прафесію... Буду юрыстам...

— Судзіць, караць людзей?! — грэбліва моршчыўся я і адварочваўся, каб не глядзець на аднакласніка, не бачыць яго круглай, стрыжанай — пад вожык — галавы, валаватых, на выкаце, вачэй, мясістага, з гарбінкай носа, тонкіх, валявых губ.

— Чаму судзіць, чаму караць? — не згаджаўся са мной Пятрусь. — Можна ж і абараняць. Я якраз і хачу абаронцам, а д в а к а т а м быць. Што ні кажы, здорава гэта—пракурор, суддзі, сведкі патрабуюць пакараць чалавека, а ты ўзяў ды абараніў яго. Вядома, трэба будзе законы назубок вывучыць, ды і красамоўства, усё, што толькі можна, ужыць...

Пасля заканчэння сярэдняй школы дарогі ў нас з Петрусём разышліся — ён і праўда паступіў на юрфак, стаў юрыстам... Ну а я... Выбраў сабе зусім іншую прафесію...

Мінула больш за два дзесяткі гадоў. Неяк, будучы ў чарговай камандзіроўцы ў адным з раённых цэнтраў і не ведаючы, дзе падзець вольны час, я, ідучы міма памяшкання народнага суда і бачачы, як там тоўпяцца на прыступках людзі, збочыў туды. І, калі зазірнуў у залу суда, вачам сваім не паверыў — у паўнаватай постаці пракурора, які акурат выступаў, надта ж бойка цытуючы розныя пункты і параграфы законаў і кодэксаў — патрабаваў сурова пакараць нейкага вясковага дзядзьку, што сядзеў, быццам верабей, напалоханы і згорблены, на лаве падсудных,— пазнаў былога свайго аднакласніка, Петруся...

Пасля мы сустрэліся, нават зайшлі да Петруся — цяпер Пятра Адамавіча — на кватэру і не то паабедалі, не то павячэралі.

— Ну, і як твая мара? — спытаў я яго, калі ён праводзіў мяне да гасцініцы і мы зноў, як бывала, асталіся адзін на адзін.

— Яка-ая мара? — не зразумеў, са здзіўленнем паглядзеў на мяне Пётр Адамавіч.

— Помніш, калі мы ў школе вучыліся, ты гаварыў — хочаш быць адвакатам, абараняць людзей...

— А-а,— усміхнуўся Пётр Адамавіч.— «Маладыя гады, маладыя жаданні», як пісаў Максім Багдановіч. Ды і калі шчыра гаварыць, абараняць вельмі няма каго. Як я пераканаўся, тых людзей, хто быў бы ні ў чым не вінаваты... Мала. Вельмі мала. Варта памацаць, добранька толькі памацаць чалавека, і... Можна справу заводзіць, судзіць... І таму... Словам, няхай іншыя ў абаронцы ідуць, хто малады, менш вопытны... А мая справа, справа пракурора... Не ўберогся, трапіў на лаву падсудных—атрымай сваё... Што ж,—развёў рукамі Пётр Адамавіч.— Хочаш жыць, як жывуць людзі, не парушай законаў, не трапляй на лаву падсудных... Вось так, даражэнькі, так...

І неяк нахабна, звысоку, быццам з выклікам, паглядзеў на мяне, і сыта засмяяўся, ледзь не зарагатаў...

## ПЛАТА ЗА ПРАЎДУ

Вялікі гарадскі сквер. Лета. Спякотны поўдзень.

На лаўцы, што стаіць пад маладою кучараваю ліпкаю, у цяні, сядзіць, дрэмле вясковы дзядзька. Чаравікі на нагах у яго запылены, штаны змяты, сарочка на грудзіне расхлістана — па ўсім відаць, дзядзька змарыўся, ходзячы, можа, ад самай раніцы па нязвыклых асфальтаваных тратуарах і вуліцах. Побач з дзядзькам, на лаўцы, ляжыць, складзены падкладкай наверх, яго пінжак. З патайной кішэні пінжака вытыркаецца ражок скуранога бумажніка...

Нейкі ягамосць, што немаведама чаго шпацыруе сюд-туд па алейцы сквера, неўпрыкмет зварочвае да лаўкі, на якой сядзіць, дрэмле дзядзька, на хвіліну прыпыняецца, выцягвае з кішэні пінжака бумажнік, і зноў, як ні ў чым ні бывала, ходзіць, шпацыруе па алейцы сквера, насвіствае нешта вясёленькае сабе пад нос.

Між тым дзядзька ачынаецца, расплюшчвае вочы, цягне да сябе пінжак, лезе рукою ў кішэню. І, вядома, адразу ж здагадваецца, што ў кішэні пінжака няма бумажніка. Момант — і дзядзька падхопліваецца на ногі. Убачыўшы непадалёку хлопчыка, што капаецца тут жа, у скверы, у пясочніцы, спяшаецца да яго.

— Гэй ты, хлопчык, ці не бачыў ты выпадкам, хто падыходзіў да мяне, калі я драмаў? — пытаецца дзядзька.

— Чаму ж не, бачыў,— здзіўляецца хлопчык з дзядзькавай наіўнасці.— Вунь той,— паказвае ён рукою на ягамосця.— Яшчэ ён,— шчыра прызнаецца хлопчык,— браў нешта з вашай кішэні...

Дзядзька вяртаецца на алейку, даганяе ягамосця.

— Чалавеча! — кажа ён да ягамосця.— Аддай бумажнік. Там мае дакументы. І грошы.

— Які бумажнік? Якія дакументы? Якія грошы? — робіць выгляд зусім невінаватага ягамосць.

— Не прытварайся. Хлопчык усё бачыў і сказаў мне.

— Які хлопчык? Вунь той? — ківае ягамосць галавою на хлопчыка, што капаецца ў пяску.— Зараз мы ў яго папытаем, што ён бачыў, — цыркае скрозь зубы слінаю ягамосць і як не бягом кіруецца да хлопчыка.

Дзядзька не адстае ад ягамосця, спяшаецца за ім.

— А ну раскажы, што ты бачыў? — грозна крычыць, бліскае вачыма на хлопчыка яшчэ здалёку ягамосць.

— Я... Бачыў... Бачыў,— ніякавее, палохаецца хлопчык.

— Ну-ну, скажы, што ты бачыў? — наступае на хлопчыка ягамосць.

І дзіва дзіўнае — хлопчык раптам смялее.

— Я бачыў, — кажа ён зусім спакойна, — як вы падышлі да лаўкі, на якой сядзеў вось гэты дзядзька,— паказвае ён рукою на дзядзьку,— і выцягнулі ў яго нешта з кішэні пінжака...

— Што? — шалее ягамосць.— Такі малы, а ўжо навучыўся брахаць,— шыпіць, абураецца ён і перш, чым паспявае дзядзька схапіць яго за руку, б'е наводмаш хлопчыка проста ў твар...

Хлопчык плача, аж захлібаецца ад слёз. Ад болю, ад крыўды ён не можа вымавіць слова...

Ціха, ціха, хлопчык! Прывыкай! Гэта першая плата табе за тое, што ты не пабаяўся, сказаў праўду! Прымі яе як належнае і не крыўдуй, не плач...

## ЗА ШТО?..

Ім зайздросцілі. І не дзіва — і ён, і яна толькі што закончылі інстытут, згулялі вяселле, абое былі маладыя, дужыя, прыгожыя. І яго, і яе пакідалі ў горадзе, у аспірантуры. Разам, ужо ўдваіх, яны з'ездзілі на свае апошнія студэнцкія канікулы, потым вярнуліся ў горад, нанялі пакойчык. Марылі пра сям'ю, дзіця...

І тут здарылася неспадзяванае. Неяк апоўначы да іх пастукаліся ў дзверы, прад'явілі ордэр на арышт. Тады, у тыя гады,— яны ведалі гэта,— бралі многіх. Але што гэткае няшчасце можа напаткаць і іх — нават не думалі.

— Не можа быць,— разгубіўся ён. — Гэта памылка...

Але яго не слухалі. Уладным голасам загадалі збірацца, ісці да машыны, што стаяла ля пад'езда дома.

— Я ні ў чым не вінаваты,—спрабаваў ён усміхацца, каб хоць нечым абнадзеіць, суцешыць жонку.— Разбяруцца... Выпусцяць...

І праўда — ён ні ў чым не быў вінаваты. Разабраліся, яго выпусцілі. Толькі зрабілі гэта не назаўтра, не напаслязаўтра, не праз тыдзень, а праз дваццаць доўгіх, як вечнасць, гадоў. Знялі судзімасць, рэабілітавалі...

Жонка пасля арышту мужа пакінула горад, аспірантуру, паехала працаваць на вёску. Замуж за другога не выходзіла, чакала таго, каго кахала, бо ведала, што яе муж ні ў чым не вінаваты, верыла, што не сёння-заўтра яго выпусцяць. Разбяруцца і выпусцяць...

Праз дваццаць гадоў яны сустрэліся, пачалі зноў жыць разам. Ні ён, ні яна ніколі ні на што не скардзіліся, хоць былі ўжо не маладыя і часта хварэлі. Гаварылі між сабою наогул мала, найбольш маўчалі, кожны перабіраючы ў памяці сваё, пražытае і непражытае. Толькі іншы раз, па вечарах, кладучыся ў пасцель, ён доўга-доўга глядзеў на жонку, чужую, невядомую жанчыну, і пытаўся ні то ў сябе, ні то яшчэ ў кагосьці:

— За што, за што адабралі ў нас дваццаць гадоў жыцця... Ды якіх гадоў!..

Сутаргава схапіўшыся аберуч за галаву, у наступную хвіліну ён зняможана падаў, скрыгочучы зубамі, у пасцель...

...У такія вечары жонка ціха-ціха, каб ніхто не чуў, усхліпвала, душылася ў падушцы ад слёз...

# КАБ НЕ ЗАЧАРСЦВЕЦЬ ДУШОЙ

З якой нястрымнай энергіяй узрастае апошнім часам цікавасць нашых сучаснікаў да гісторыі! Гэта, несумненна, — сведчанне нашай духоўнай сталасці. Мы хочам лепш спазнаць свет, саміх сябе, а гэты працэс немагчымы без глыбокага вывучэння свайго мінулага. І тады мы нярэдка звяртаемся да мастацтва творцаў, якія, падобна да гётэўскага Фаўста, імкнуцца спыніць імгненні і ўзнавіць іх у эмацыянальнай, мастацкай гісторыі роднай зямлі.

У студзені Беларускае тэлебачанне паказала сваю новую работу — фільм-оперу «Сівая легенда», пастаўлены паводле аднайменнай оперы Д. Смольскага і аповесці У. Караткевіча.

Любоў да Радзімы, да гісторыі беларускага народа аб'яднала двух самабытных мастакоў. Абодва рамантыкі ў мастацтве, У. Караткевіч (ён пісаў і лібрэта оперы) і Д. Смольскі не толькі «знайшлі» адно аднаго, але здолелі захаваць у драматургіі новага твора адзіную рамантычную інтанацыю, скласці гімн вялікай любові, якая стала легендай.

Падзеі аповесці «Сівая легенда» пераносяць нас на Беларусь тых часоў сярэднявечча, калі частымі былі паўстанні сялян супраць феадальнага прыгнёту. Жывое адчуванне часу дазволіла спачатку пісьменніку, а потым і кампазітару перакінуць масток паміж мінулым і цяперашнім. Так, змяняюцца аблічча свету, аблічча і лёс людзей. Але хіба ж імкненне да праўды, барацьба за свабоду, хіба ж гора і радасці чалавека, ягоная любоў сёння — не тыя ж самыя? Сюжэт «Сівой легенды» набыў сучаснае гучанне. Мінулае і цяперашняе зліліся ў цудоўны гарманічны акорд. Жывая повязь часоў...

Неяк У. Караткевіч сказаў: каб не зачарсцвець душой, трэба верыць у легенды. Ён сам, як ніхто іншы, меў асаблівы погляд на свет, умеў бачыць у жыцці выключнае, рэдкае, незвычайнае. З асаблівай увагай вывучаў народныя паданні, прытчы, легенды, і яны, прайшоўшы праз сэрца мастака, рабіліся старонкамі гісторыі роднай зямлі. Гэта рамантычная прыўзнятасць і страснасць Караткевічавага апавядання ўсхвалявала кампазітара Д. Смольскага. Якія характары! Якая шчырасць і эмацыянальная адкрытасць! Сумненняў не было: «Сівая легенда» павінна стаць операй... Прэм'ера адбылася ў сакавіку 1978 года на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Пад час яго гастроляў у Маскве была з поспехам паказана на сцэне Вялікага тэатра Саюза ССР.

Прызнанне музычнай грамадскасці, Дзяржаўная прэмія БССР — кампазітару... Але як бы шчасліва ні складваўся лёс спектакля, сёння «Сівой легенды», на жаль, у рэпертуары тэатра няма. Таму адраджэнне яе на экране — падзея сапраўды радасная. Рэжысёр Г. Нікалаеў (вядомы як пастаноўшчык тэлефільма паводле оперы А. Багатырова «У пушчах Палесся») дакладна вызначыў і свае адносіны да музычнага матэрыялу, і свой спосаб сувязі з гледачом. У кожнай сцэне, у кожным кадры тэлефільма пануе **музыка**. Трэба асобна сказаць, што цудоўным падмуркам гэтай работы стаў высокапрафесійны запіс оперы, ажыццёўлены Сімфанічным аркестрам (дырыжор Б. Райскі) і хорам Дзяржтэлерадыё БССР (дырыжор В. Роўда), салістамі оперы І. Шыкуновай, А. Дзедзікам, А. Саўчанкам і салісткай радыё Т. Пячынскай. На ролі галоўных герояў оперы былі запрошаны драматычныя акцёры. У такім рэжысёрскім вырашэнні ёсць нямала заманлівага, але шмат і складанасцей. Бо ў канчатковым выніку ўсё вырашае не вонкавая пераканальнасць, не сінхроннасць артыкуляцыі акцёра з фанаграмай спевака, а ўменне артыстаў, што ў кадры, жыць і адчуваць, зыходзячы з музычнага вобраза. Выдатна з гэтай задачай справіліся выканаўцы роляў Любкі (актрыса М. Карманава) і Кізгайлы (акцёр А. Жук). Менш задаволіў у гэтым плане выканаўца галоўнай ролі Рамана артыст А. Лабуш. Страснасць, эмацыянальная напоўненасць, праўдзівасць і шчырасць таленавітага спевака А. Дзедзіка нярэдка знаходзяцца ў яўнай супярэчнасці са спакойнымі і даволі статычнымі паводзінамі Рамана на экране.

Прынцып дзейснага і рэзкага кантрасту, які вызначае музычную драматургію оперы, стаў асноўным і для тэлефільма. Высокая ступень абагульненасці ў оперы, даведзеная да сімвалічнага гучання, спрыяла нараджэнню кінематаграфічных вобразаў-сцэн. Карціны народнага гора, пакут, сцэны паўстання сялян чаргуюцца з эпізодамі, якія апавядаюць пра жыццё галоўных герояў. На экране раскрываецца сапраўдная чалавечая трагедыя, трагедыя кахання Рамана Ракутовіча да прыгоннай дзяўчыны Ірыны. Феадал Кізгайла, таварыш Рамана па зброі, адмовіўся аддаць яму Ірыну — і Раман узначальвае паўстанне. Не толькі асабістая крыўда была прычынай гэтага, а і свядомы пратэст Рамана супраць сацыяльнага прыгнёту. Простыя, шчырыя людзі хочуць дабрыні і павагі, і яны гатовы адстаяць сваё права «людзьмі звацца» ў жорсткай барацьбе. У час паўстання гінуць тысячы людзей, забіты Кізгайла, узяты ў палон Раман, кінута ў засценак Ірына. У якім складаным драматычным клубку пераплячіся лёсы герояў! Да таго ж, жонка Кізгайлы — Любка — кахае Рамана. Кахае без узаемнасці і таму помсціць Ірыне.

Праз неверагодна цяжкія выпрабаванні прайшлі Раман і Ірына. Юнаку адсеклі кісці рук, каб ён ніколі больш не падняў меч. Дзяўчыну зрабілі сляпой. Але няма такой сілы, якая перашкодзіла б закаханым. Яны не здрадзілі свайму пачуццю. Над усім светам зла, насілля, гора быццам лунае пяшчотная мелодыя кахання Ірыны і Рамана. Нельга без глыбокага хвалявання слухаць іх дуэт — сапраўдны гімн каханню, вечнаму, як сама прырода. І правільна, думаю, зрабілі стваральнікі тэлефільма, пачаўшы яго таксама гэтай музычнай тэмай.

У. Караткевіч закончыў сваю аповесць словамі: «Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей». Кампазітар Д. Смольскі музыкай праслаўляе каханне Ірыны і Рамана, каханне, якое дае ім сілу і веру ў прыгажосць жыцця.

Свае фарбы ў адраджэнне «Сівой легенды» на тэлеэкране ўнёс кінематограф: зняты цудоўныя беларускія краявіды, велічны ў сваёй строгай прастаце Мірскі замак, у кадрах адчуваецца аскетычна суровы, а часам і злавесны каларыт эпохі. І ўсё гэта адцяняе галоўную думку спектакля: услаўленне вечнага кахання.

Аўтарам тэлефільма, здаецца, нідзе не здраджвае мастацкае адчуванне меры, густу, такту. Нярэдка зрокавыя вобразы падаюцца ў кадры як простыя сімвалы эпохі, сімвалы жыцця. Тут і крыштальна чысты струмень крыніцы, і растрывожаны звон, і меч бясстрашнага Рамана. І вясновы сад у квецені, і холад змрочнага сутарэння...

Тэлеверсія оперы «Сівая легенда», на маю думку, атрымалася цікавай, захапляючай, кранальнай.

**Іна ЗУБРЫЧ.**

# ЗАСПЯВАЛА «МЕДУНІЦА»



Выступае «Медуніца». Фота А. ПІЛЕЦКАГА.

Пішу гэтыя нататкі, пагледзеўшы перадачу Цэнтральнага тэлебачання — фільм-канцэрт з удзелам фальклорна-харэаграфічнага ансамбля Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі «Медуніца» (кіраўнік А. Кашпур). Асабліва цікава прагучалі з экрана харавая сюіта «Пярэзвы», створаная на аснове традыцыйных кампанентаў беларускага вясельнага абраду і вясельных песень Гомельшчыны; вядомая беларуская народная песня ў пералажэнні для чатырохгалосага жаночага хору «Рэчанька», лірычная «А пятрова ночка невялічка». Усе гэтыя творы апрацаваны кіраўніком ансамбля А. Кашпурам. Адметна былі выкананы таксама «Беларускія вяснянкі» ў апрацоўцы М. Сіраты, «Медуніца» ў апрацоўцы А. Рашчынскага.

Большасць тэлегледачоў, безумоўна, адкрыла для сябе не знаёмы раней самабытны ансамбль. Я ж даўно ведаю гэты калектыў і яго кіраўніка, які пастаянна спрабуе ажыццявіць сваю мару — навучыць будучых хармайстраў спяваць беларускую народную песню менавіта ў той самабытнай манеры, у якой яна пяецца ў народзе. Гэта яму ўдаецца, хоць, здаецца, няма нічога больш цяжкага, чым **навучыць** выконваць народную песню ў народнай манеры. Вядома, многае ў рабоце А. Кашпура з «Медуніцай» яшчэ недасканала, гэтаксама як і недасканалыя вучэбныя планы і праграмы, па якіх вядзецца навучанне. Ды галоўнае — ёсць пачын і ёсць энтузіязм.

Праўду сказаць, азначэнне «харэаграфічны» ў назве ансамбля ўмоўнае, а вось «фальклорны» — гэта дакладна. Адсутнасць у «Медуніцы» сапраўднай харэаграфіі — не віна кіраўніка ансамбля. Справа ў тым, што навучанне будучых кіраўнікоў народных калектываў далёка ад дасканаласці, а такая ж спецыялізацыя існуе ў Мінскім музычным вучылішчы вось ужо амаль 15 гадоў! У пачатку мінулага года такая спецыялізацыя адкрыта ў Наваполацкім музычным вучылішчы (дарэчы, і яго навучэнцы прынялі ўдзел у здымках фільма-канцэрта), магчыма, адкрыюцца і ў іншых вучылішчах. Але хто ў іх будзе весці такія дысцыпліны вучэбнага плана, як «Асновы народнага танца», «Рэжысура народнай песні», «Вывучэнне абласных пеўчых стыляў», «Пастаноўка голасу»? Спецыялістаў, патрэбных для выкладання гэтых дысцыплін, сёння не рыхтуе для сярэдняга звяна ніводная навучальная ўстанова! Тым больш агромністай і падзвіжніцкай падаецца праца кіраўнікоў калектываў, падобных да «Медуніцы», кіраўнікоў, якія адчуваюць пастаянную неабходнасць рабіць больш, чым прадугледжана рэальнай вучэбнай праграмай.

Абаяльнасць і прываблівасць фальклору добра вядомы. Аднак часам узнікае небяспека скажэння яго зместу і нават неправамернага выкарыстання ў мастацкай практыцы. Натуральна, што ў сувязі з гэтым паўстае праблема захавання фальклорнага багацця, назапашанага да сённяшняга дня — прынамсі, і ў нас у рэспубліцы.

Сапраўды, ёсць нямала анталогій, магнітафонных запісаў, кандыдацкіх дысертацый, навуковых публікацый і артыкулаў, існуюць самадзейныя фальклорныя калектывы, ствараюцца прафесійныя. І ўсё-такі неабходна прызнаць, што фальклор сёння знаходзіцца ў менш спрыяльным становішчы, чым прафесійнае мастацтва. Самая ж галоўная прычына такога становішча, думаю, у тым — каго, дзе і як мы вучым разумець такія ўласцівасці фальклору, як паэтычнасць формы, павучальнасць зместу, глыбокая сімвалічнасць і здатнасць вызваляць чалавека ад усяго наноснага і часовага.

Вельмі трапна заўважыў мастацкі кіраўнік Маскоўскага камернага хору прафесар У. Мінін: час вызначыцца, да каго ты належыш, бо без памяці пра мінулае нельга сябе ўсведамляць! Ці не таму з глыбокім пачуццём слухаеш новыя канцэртныя праграмы Хору Беларускага тэлебачання і радыё, Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР, калектыву Мінскага інстытута культуры «Валачобнікі», якія актыўна займаюцца прапагандай беларускай песеннай народнай творчасці? Сёння гэта па праву можна сказаць і пра фальклорны ансамбль Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі «Медуніца». Час не чакае, народная творчасць надзвычай крохкая, безабаронная, і захаваць яе — задача не з лёгкіх.

**В. АУРАМЕНКА,**
**старшы выкладчык кафедры харавога дырыжыравання Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

НАШ ДУХОЎНЫ СВЕТ: ВЫТОКІ і АБСЯГІ

**Віктар СУПРУНЧУК**

# ЗАТАНУЛА ДЗЕДАЎСКАЯ ПУШЧА...

Заўсёды, як надарыцца шчаслівы выпадак, з радасцю еду дадому, у родны кут; у гэтым, напэўна, мяне зразумее кожны, хто любіць сваю малую радзіму — сваю вёску, рэчку, лес. А вось апошнія гады выбіраюся туды з болем у сэрцы. Вінавачу сябе, што, паддаўшыся ўсеагульнаму настрою захвальвання, змоўчаў у свой час, не падаў свой голас супраць таго, што рабілася ў гэтым некалі цудоўным куточку Палесся.

Яшчэ пяць-шэсць гадоў назад за вёскай Сялец, што ў Бярозаўскім раёне, шумеў лес — на многіх сотнях гектараў. Кожная дзялянка мела сваё найменне: Вялікі лес, Сапажынскі, Дубы, Сімонікі... А ўсё разам гэта называлася Дзедаўскай пушчай. І вось цяпер нічога гэтага няма. Лес знішчаны, зямля заліта вадой — створаны рыбгас «Сялец». Ці была такая пільная патрэба ў ім, калі толькі на тэрыторыі раёна знаходзяцца азёры Белае, Чорнае, Спораўскае? Ці варта было дзеля гэтага знішчаць так шмат лесу, спрамляць, ператвараць у канал прыгажуню Ясельду, апетую паэтамі?

На партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў я спытаў пра гэта ў былога начальніка Галоўпалессеводбуда А. Зеляноўскага (цяпер старшыня Брэсцкага аблвыканкома) — ён выступаў тады на сходзе з прамовай. З яго адказу вынікала, што і ён дакладна не ведаў, ці трэба было рабіць Сялецкае вадасховішча.

Не маглі людзі спакойна глядзець на тое, як гіне лес. Прыходзілі да мясцовага начальства, пыталіся: навошта, дзеля чаго, хто дадумаўся да гэтага? Начальства адмоўчвалася, нібы ўсё тое рабілася ў нейкім сакрэце. А чаму было не спытацца ў тых самых людзей, не параіцца з імі?

Сям-там нават на асушаных

З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

# Падарожжа... у музычны Віцебск

Музея музычнай культуры гарадоў Беларусі, як вядома, пакуль няма. Але час ад часу даследчыкі знаходзяць у бібліятэках і архівах цікавыя дакументы, звесткі, якія маглі б увайсці ў экспазіцыю такога музея і расказаць пра музычнае жыццё мінуўшчыны.

Давайце паспрабуем уявіць сабе, напрыклад, музычнае жыццё Віцебска XVIII стагоддзя. На старонках газет «Kuryer Litevski» (выдаваўся ў Вільні) і «Kurier Polski» (выдаваўся ў Варшаве) знаходзім паведамленні пра афіцыйныя цырымоніі, абрады і святы, на якія сцякаліся жыхары ўсяго горада, а таксама пра разнастайныя забавы знаці. Амаль усе такія падзеі суправаджала гучанне капэл, якія складаліся з інструменталістаў і вакалістаў. Так, паводле сведчанняў перыёдыкі, у 1731 г. капэлы прымалі ўдзел у пышных га-

ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

# «Мая мара— наведаць БЕЛАРУСЬ...»

**На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказвае рэдактар газеты «Голас Радзімы» Вацлаў Генрыхавіч МАЦКЕВІЧ**

**— Калі знаёмішся з нумарамі «Голасу Радзімы», то адразу заўважаеш, як сур'ёзна ставіцца рэдакцыя да прапаганды здабыткаў культурнага і літаратурнага жыцця рэспублікі, гістарычнай мінуўшчыны нашага народа, яго фальклору, пісьмовых помнікаў, мастацтва. Гэта, відаць, сведчыць пра характар і запатрабаванні вашага галоўнага чытача — нашых суайчыннікаў, якія жывуць за межамі нашай краіны...**

— Мы з'яўляемся выданнем Беларускага таварыства «Радзіма», поўная назва якога гучыць так: Беларускае таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом. Як бачыце, у самой назве (і ў статуце таварыства таксама) ужо вызначаны галоўны накірунак работы рэдакцыі «Голасу Радзімы». Чытач наш вельмі разнастайны—і паводле ўзросту і адукаванасці, і паводле светапогляду і стаўлення да Радзімы, яе мінуўшчыны і дня сённяшняга—і патрапіць на густ кожнага не так проста. Адных цікавіць толькі палітыка, другія нам пішуць, што «палітыкай не займаюцца», трэція чытаюць пераважна тое, што датычыць даўніны. Але ёсць дзве тэмы ў газеце, якія не абыякавыя для кожнага. Гэта—як жывуць сёння беларусы на Бацькаўшчыне і ў якім стане культурная спадчына народа, як яна памнажаецца, чым адметная. Праз культуру бадай што лягчэй знайсці дарогу да сэрца замежнага суайчынніка, на галаву якога штодзённа і штохвілінна абрушваецца магутны паток антысавецкай інфармацыі.

На Захадзе даўно бытуе такі тэрмін — «пошукі сваіх каранёў». Гэта — духоўна-псіхалагічны працэс. Працэс асэнсавання эмігрантам самога сябе. І ён асабліва ўзмацніўся ў апошнія гады. Хто я? Іван без роду, без племя? Амерыканец? Англічанін? Немец? Што дзіўна, — такія пытанні задаюць дзеці і ўнукі тых нашых суайчыннікаў, якія па розных абставінах вымушаны былі пакінуць свой край. Усвядоміўшы сваё паходжанне, чалавек за мяжой імкнецца як мага глыбей спазнаць гісторыю свайго народа, яго культуру, яго багатыя традыцыі. І як вынік гэтага ўсведамлення—гонар за народ, з якога паходзіць, за тую зямлю, дзе карані яго роду, і разуменне нашага ладу жыцця, нашых ідэалаў.

Ролю «Голасу Радзімы» ў гэтым працэсе вызначаюць самі чытачы: «Газета не дае нам загінуць у чужародным моры, страціць сваё нацыянальнае аблічча, забыцца, хто мы і адкуль».

Сёння беларускую песню, беларускі танец можна часта ўбачыць і пачуць і ў Канадзе, і ў ЗША, і ў Аргенціне, і ў далёкай Аўстраліі, і ў суседняй Еўропе. Цэнтрамі культурнага жыцця тут з'яўляюцца патрыятычныя арганізацыі нашых землякоў—Федэрацыя рускіх канадцаў, клуб імя Чарнышэўскага і Араў-парк у ЗША, Федэрацыя культурна-спартыўных клубаў у Аргенціне, Саюз савецкіх грамадзян у Бельгіі. З усімі гэтымі арганізацыямі цесную сувязь падтрымлівае «Голас Радзімы» і дапамагае ў іх культурна-асветніцкай дзейнасці.

Нягледзячы на тое, што наша эміграцыя, у адрозненне, напрыклад, ад латышскай ці эстонскай, як кажуць, з мужыкоў, малаадукаваная, цяга замежных беларусаў да роднага слова, да сваёй песні, да культурнай спадчыны — вялікая. Можна было б прыгадаць тут не адзін прыклад, як «Голас Радзімы» дапамог чалавеку ў Канадзе ці Англіі вывучыць беларускую мову, многа ўведаць з гісторыі нашага краю, спазнаць скарбы культуры народа.

А цяпер, калі наша прыгожае пісьменства, наша самабытная культура набываюць міжнароднае прызнанне, жаданне ведаць пра духоўныя здабыткі беларускага народа вельмі моцнае. І не толькі сярод нашых суайчыннікаў за мяжой, але і сярод іншаземцаў.

**— Значнае месца сярод матэрыялаў, што друкуюцца на старонках тыднёвіка, займаюць літаратурныя публікацыі. Хацелася б пачуць, з якімі перш за ўсё творамі вы імкнецеся пазнаёміць свайго чытача, якімі прынцыпамі карыстаецеся пры падборы матэрыялу?**

— Першы і, бадай, асноўны прынцып — гэта ў меру нашай магчымасці (у «Голасе Радзімы» ў адрозненне ад «ЛіМа» толькі восем старонак) знаёміць чытача са з'явамі ў нацыянальнай літаратуры. З тым, пра што гавораць не толькі ў рэспубліцы і Саюзе, але і што прыцягвае ўвагу замежнай грамадскасці. Калі, скажам, асцярожныя да ўсяго савецкага заходнегерманскія кнігавыдаўцы бяруцца друкаваць Васіля Быкава, то як жа мы можам не даць магчымасць хоць ва ўрыўках пазнаёміцца замежным беларусам з творамі пісьменніка, чыё імя сёння ўваходзіць у спіс лепшых празаікаў свету. Таму мы летась друкавалі, напрыклад, раздзелы з аповесці Васіля Быкава «Кар'ер», а яшчэ раней пазнаёмілі са «Знакам бяды».

Другі прынцып адбору — важкасць таго, што прыносіць у нашу літаратуру маладое пакаленне, як яно бачыць акаляючы яго свет, вядома, у мастацкім сэнсе гэтага выразу. Вось і нядаўна на нашай шостай паласе, дзе звычайна мы прадстаўляем таго ці іншага пісьменніка, з'явілася нізка вершаў са зборніка маладой паэтэсы Валянціны Аколавай. Шэсць гадоў назад «Голас Радзімы» надрукаваў яе першыя вершы, якія яна прывезла з сабой на семінар пачаткоўцаў. І вось цяпер чытачы могуць меркаваць аб адметнасці творчага росту маладой паэтэсы.

І трэці прынцып, калі можна так сказаць, тэрытарыяльны ці што. Зараз якраз мы пачынаем друкаваць урыўкі з рамана Вячаслава Адамчыка «Год нулявы». Месца дзеяння—Заходняя Беларусь, дзе ад галечы, беззямелля і нацыянальнага ўціску выехала ў Канаду, Аргенціну, Бразілію каля 400 тысяч беларусаў. Час дзеяння—гады акупацыі краю буржуазна-памешчыцкай Польшчай. Вядома ж, людзей, якія перажылі ўсё гэта, цікавіць: а што сказаў пісьменнік пра тое іх жыццё?

Такіх просьбаў—пісаць больш пра сучаснае жыццё былых «крэсаў» і пра тое, як было там калісьці, — рэдакцыя атрымлівае шмат. Не менш просьбаў—знаёміць з мемуарнай літаратурай, у якой расказваецца пра тое, што перажыў наш народ у гады фашысцкай акупацыі. Гэта баліць нашым землякам, бо большасць з іх тут страцілі сваіх родных, блізкіх, сяброў маладосці.

**— У рэдакцыю, пэўна, прыходзяць і водгукі на апублікаваныя вершы, апавяданні, урыўкі з аповесцей ды раманаў... Ці не маглі б Вы з некаторымі пазнаёміць чытачоў «ЛіМа»?**

— Уласна кажучы, усё тое, пра што я расказваў—прынцыпы адбору літаратурных публікацый, — у многім грунтуецца на пажаданнях, запатрабаваннях нашых замежных чытачоў. Некалькі гадоў назад атрымалі мы ліст ад Марыі Гарох з Бельгіі, у якім яна выказала пажаданне многіх членаў Саюза савецкіх грамадзян—больш сістэматычна знаёміць чытачоў «Голасу Радзімы» з апошнімі творамі беларускіх пісьменнікаў. І мы гэта ўлічылі ў нашых планах. Па шматлікіх просьбах чытачоў друкуем рэгулярна на 8-й старонцы песню з нотамі, сучасную ці народную. А затым гэтая песня гучыць у розных канцах свету ў выкананні самадзейных хораў, што створаны пры арганізацыях нашых суайчыннікаў. Дарэчы, каб у нейкай меры задаволіць культурны голад нашых землякоў, мы сёлета рыхтуем да друку невялічкі зборнік беларускіх песень пад назвай «Мой родны кут».

Друкуючы літаратурныя, публіцыстычныя творы, дасылаючы кнігі нашым актыўным карэспандэнтам, мы даём ім зброю ў барацьбе з рознымі антысаветчыкамі.

«Дзякую вам за кнігу «Я з вогненнай вёскі...»,—напісаў у рэдакцыю Рыгор Аплевіч з Канады пасля таго, як газета апублікавала ўрыўкі з гэтай страшнай кнігі.—Сам-то я ведаю, што такое вайна. Але многія з канадцаў і не ўяўляюць, якое гора людзям яна нясе. Я цяпер чытаю ім пра тое, што адбывалася на Беларусі, і ў іх нешта пераварочваецца ў галаве, становіцца на сваё месца, да іх свядомасці нешта даходзіць. Друкуйце і дасылайце больш дакументальнага матэрыялу пра ролю нашай Радзімы ў выратаванні чалавецтва ад фашызму. Бо тут нямала такіх, хто перакананы, што вайну выйграла Амерыка. Мне часта даводзіцца з імі змагацца...»

«Мяне цешыць не толькі камп'ютэрызацыя вашай вытворчасці, але і высокае мастацкае слова. Звычайна я чытаю ўсё, што вы друкуеце, і тое, з чым пазнаёміўся, дае падставу гаварыць: беларускі верш кранае сэрца».

Вось такія, крыху нескладныя, але вельмі шчырыя радкі напісаў Юрый Расадзінкі з Аўстраліі.

А вось іншы водгук. Гэта ўжо на нашу брашуру. Напісаў ліст Браніслаў Старыновіч з Аргенціны. Ён прачытаў выдадзеную ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» кніжку Мікалая Кузняцова «Гаспадары зямлі». Пра тое, як і чым жыве сёння беларуская вёска. «Чытаў яе некалькі разоў. Пра тое, як было пры панах,—усё праўда. А пра сённяшні дзень дык мне нават не верыцца: няўжо мінулі гады пакут і беднасці, якія выпалі на нашу долю. Я ж працаваў ад цямна да цямна, а як быў голым і галодным, так і застаўся. Ад гэтага жыцця і падаўся ў 1929 годзе ў Аргенціну. Мая мара цяпер—наведаць родную Беларусь».

**— Значную цікавасць уяўляюць для чытача кніжкі серыі «Бібліятэчка «Голасу Радзімы», падрыхтаваныя да друку ў рэдакцыі тыднёвіка. Што было выдадзена ў гэтай серыі летась і якія планы на гэты год? Ці мяркуеце выдаць у гэтай серыі зборнік лепшых літаратурных твораў, надрукаваных за нейкі час на старонках «Голасу Радзімы»?**

— Мне неаднойчы даводзілася бачыць, бываючы ў дамах беларусаў за мяжой, паліцы, застаўленыя кніжачкамі серыі «Бібліятэчка «Голасу Радзімы». Аказваецца, землякі іх старанна берагуць. Зрэшты, як і падшыўкі газеты. Калі прыкінуць у колькасным выражэнні, дык гэта ўжо ладная бібліятэчка. За ўсе гады мы выдалі, відаць, больш як сто кніг і брашур. Тэматыка іх даволі шырокая. І вядома ж, значнае месца займаюць культура, літаратура, мастацтва.

Летась, напрыклад, у нас выйшла «Сябрына» Аляксея Гардзіцкага. Цікавая брашура пра міжнацыянальныя літаратурныя ўзаемаадносіны ў СССР, пра месца беларускіх твораў у агульнасаюзным літаратурным працэсе. Пра тое, што вабіць перакладчыкаў у творах беларускіх аўтараў, як уплывае наша мастацкае слова на фарміраванне духоўных запатрабаванняў іншых народаў нашай краіны.

Шырокі рэзананс атрымала кніжка Вячаслава Шалькевіча «Кастусь Каліноўскі». На яе вялікі попыт быў і за рубяжом, і ў нас. Па шматлікіх просьбах мы летась перавыдалі кнігу на англійскай мове, улічваючы цікавасць нашага англамоўнага чытача.

Некалькі нарысаў аб дынастыях беларускіх інтэлігентаў—Гарэцкіх, Глебавых, Цікоцкіх і іншых—склалі брашуру Таццяны Антонавай «Як галіны моцнага дрэва».

Сёлета большасць выданняў будзе прасякнута думкай аб тым, які шлях прайшоў наш народ, наша рэспубліка за 70 гадоў Савецкай улады. Гэтаму будуць прысвечаны і брашура Уладзіміра Ермалаева «Навуковы патэнцыял Беларусі», у якой — гісторыя станаўлення нацыянальнай навукі: ад лучыны да лазера, і кніжка Уладзіміра Сазановіча з серыі «Нашы славутыя землякі» — пра беларусаў, удзельнікаў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Наш час будзе прадстаўлены зборнікам нарысаў пра цікавых людзей рэспублікі, у тым ліку і прадстаўнікоў культуры.

Я ўжо згадваў зборнік песень для самадзейных калектываў суайчыннікаў за рубяжом. Над новым яго выданнем мы зараз працуем. Дарэчы, гэта ўжо трэці такі зборнік.

Павінны зацікавіць нашага чытача і гісторыка сацыяльныя і этнаграфічныя нарысы Станіслава Цярохіна «Мядовы бунт», і даследаванне гісторыка Анатоля Грыцкевіча «Вакол «слуцкага паўстання».

У бліжэйшыя гады мы хацелі б сабраць пад адной вокладкай тых пісьменнікаў, якія выступалі і, спадзяюся, яшчэ выступяць з публіцыстычным роздумам на старонках «Голасу Радзімы».

ВІНШУЕМ

## Валянціну РАБКЕВІЧУ — 50



15 лютага спаўняецца 50 год пісьменніку Валянціну Рабкевічу. З нагоды юбілею праўленне СП БССР накіравала юбіляру віншавальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Валянцін Іванавіч!**

**Горача віншуем Вас, таленавітага перакладчыка, літаратара, з пяцідзесяцігоддзем.**

**Першы верш Вы апублікавалі ў 1957 годзе. Пазней выйшаў Ваш зборнік вершаў «Ад зімы да зімы», адрасаваны дзецям дашкольнага ўзросту. Але, бадай, галоўны Ваш літаратурны занятак — мастацкі пераклад. На Вашым творчым рахунку пераклады твораў Анны Ахматавай, Міхаіла Зошчанкі, Сяргея Ясеніна, Марко Чарамшыны, Леа Метсара, іншых прадстаўнікоў нацыянальных літаратур Савецкага Саюза. Вашы пераклады вызначаюцца глыбокім пранікненнем у творчую манеру аўтара, ашчаджанасцю і вынаходлівасцю слова.**

**Выступаеце Вы ў друку і як крытык, публіцыст. Мы ведаем і цэнім Вашы артыкулы па пытаннях культуры мовы. Шмат увагі аддаяце фальклору, вынікам якой з'явілася кніжка Вашых запісаў «Паслухай, што людзі кажуць». Вы паспяхова абаранілі дысертацыю, сталі кандыдатам філалагічных навук.**

**Жадаем Вам, дарагі Валянцін Іванавіч, добрага здароўя, шчасця, новых творчых поспехаў на ніве роднай літаратуры, культуры».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да гэтага віншавання.

З ПОШТЫ «ЛіМА»

## ПАМЯТАЮЧЫ РОДНЫ КУТОК

**Я трымаю ў руках чарговую, восьмую па ліку, кніжку паэзіі Міхаіла Карпенкі, радзіма якога — Хоцімскі раён, што на Магілёўшчыне. Як жа лёс закінуў яго сюды, у гарача-спякотны край—Туркменію?..**

**— У газетах працую з 1951 года, — расказвае Міхаіл Фядотавіч, чые журналісцкія дарогі пачаліся ў калектыве «Гродненской правды».**

**З першымі сваімі вершамі прыйшоў будучы паэт у рэдакцыю гэтай газеты. Падлетка адвялі да Міхася Васілька.**

**— Той аднёсся да мяне шчыра. Нават нешта пахваліў. Нечакана для мяне на першай паласе надрукавалі мой першы верш. Радасці не было канца, — прыпамінае Міхаіл Фядотавіч.**

**М. Карпенка пасля гродзенскай абласной газеты працаваў у газеце «Піянер Беларусі». Пасля скончыў Цэнтральную камсамольскую школу (цяпер ВКШ) пры ЦК ВЛКСМ і быў накіраваны адказным сакратаром «Комсомольца Туркменистана». Зараз — рэдактар абласной партыйнай газеты «Ташаузская правда». Нязменны спадарожнік яго жыцця — паэзія. Вершы яго друкуюцца ў часопісе «Ашхабад», рэспубліканскай і цэнтральнай перыёдыцы, выходзяць асобнымі кнігамі — «Маладыя крылы», «Крыніца стэпу», «Крылы дружбы», «Песня дутара». Лепшыя вершы, сабраныя з усіх кніг, хутка выйдуць пад адной вокладкай у «Советском писателе».**

**Аднайменная паэма са зборніка «Чырвоны колас», якая ўбачыла свет летась у ашхабадскім выдавецтве «Туркменистан», напісана на беларускім матэрыяле.**

**...Летам у Міхаіла Фядотавіча адпачынак. Ведаю, што ізноў паляціць, як кажа, «дахаты», на родную Хоцімшчыну. Завітае і ў Мінск, дзе з унукамі жыве дачка. А назад, у Туркменію, прывязе новыя вершы, новыя матэрыялы для паэтычнага асэнсавання.**

**А. КАРЛЮКЕВІЧ.**

г. Ашхабад.

# ГАЛАСЫ РЭВАЛЮЦЫІ

(Працяг. Пачатак на стар. 4).

не аб выключэнні яе з камсамола. Выключылі аднагалосна. Але яна вельмі плакала і прасіла нас паверыць, што не будзе больш хадзіць у гэтай сукенцы, што яна яе выкіне, каб мы яе толькі пакінулі ў камсамоле. І я назаўтра іду пешшу ў Гомель за семнаццаць вёрст да першага сакратара губкома партыі таварыша Казаноўскага. У яго было шмат людзей, але ён усіх прыняў. А мяне сустрэў так:

— Што здарылася? Чаму такі выгляд?

Я яму расказваю, што ў нас адбылося неверагоднае: мая лепшая сяброўка, добрая камсамолка, прыйшла на камсамольскі сход у шаўковай сукенцы, у той час як усе мы ходзім у зрэбным, гэта ж буржуазнае разлажэнне.

Ён мяне ўважліва выслухаў, а пасля сказаў:

— Аднавіце яе ў камсамоле.

— Мы аднагалосна прагаласавалі.

— Яна яшчэ маладая, ёй чатырнаццаць. Яна выправіцца.

— А як жа можна было надзець шаўковую сукенку?..

— Прыйдзе час, калі ты сама будзеш насіць шаўковую сукенку і лакіраваныя туфлі.

Назад я таксама ішла пешшу. Дома ледзь дачакалася раніцы, сабрала сваіх дзяўчатак:

— Была я ў таварыша Казаноўскага, і ён сказаў, каб мы аднавілі Марыю ў камсамоле, яна выправіцца. І яшчэ ён сказаў, што прыйдзе час, і я буду насіць шаўковую сукенку і лакіраваныя туфлі.

Усе маўчалі, як громам аглушаныя. І я не ведала, што мне дадаць да таго, што сказаў сакратар губкома таварыш Казаноўскі.

На сённяшні погляд, усё гэта, пэўна, смешна. Але мы такія былі. Мы былі надзвычай сумленнымі і шчырымі людзьмі. Наша ідэя была нашай душой.

**Мікалай Яфімавіч Аўхімовіч**, член партыі з 1925 года.

...Нас часам уяўляюць аскетамі. Змагаліся з гальштукамі, змагаліся з пудрай... Песень пра каханне не спявалі... Але мне тое, наш малады час, не здаецца аскетычным. Я, напрыклад, закахаўся ў самую прыгожую дзяўчыну ў нашым мястэчку, адбіў яе ў другога. Ажаніўся. І вельмі ганарыўся, што ў мяне жонка прыгожая. Красуня! Яшчэ шмат гавораць пра наш фанатызм. Не, мы не былі фанатыкамі. Мы гэтак верылі, з такой сілай!

Уся гісторыя рэвалюцыі — гэта гісторыя майго жыцця. Хлапчукамі, падлеткамі мы былі ўцягнуты ў рэвалюцыю, уцягнуты самім часам. Памятаю, як рыхтаваліся выбары ва Устаноўчы сход (наша сям'я тады жыла ў Маскве). І вось ужо выбары, мы, вучні, памагаем. Запомніўся такі выпадак: да нашага стала падыходзіць бабуля, старшыня пытаецца ў яе:

— За каго, бабуля, галасаваць будзеш? За якую партыю?

А бальшавікі тады ішлі пад пятым нумарам.

Бабуля адказвае:

— Дзеткі, дайце мне той спісак, каб вайны не было.

Далі ёй пяты нумар бальшавікоў. Гэта на ўсё жыццё запомнілася.

Другі выпадак запомніўся. У Маскве былі? Крамлёўскую сцяну бачылі? На нашых вачах там упершыню хавалі. Скончыліся баі, пачалі збіраць забітых. Не глядзелі, хто гэта — бальшавікі ці меншавікі. Усе — ахвяры рэвалюцыі. Па сто трун на суткі выстаўлялі на паказ, каго сваякі пазнавалі, таго забіралі, а астатніх хавалі разам. Мы, хлапчукі, калі ідзе працэсія, станавіліся жывым вянком... Возьмемся за рукі... І так уздоўж усёй працэсіі... Нас шмат...

Голад... Наша сям'я вярнулася на радзіму... У горад Барысаў... І тут голад... Старэйшы брат служыў у Чырвонай Арміі. Прыехаў на некалькі дзён, убачыў, як мы жывём:

— Я цябе забяру з сабой у армію.

У дваццаць першым годзе, гэта мне было пятнаццаць гадоў, я — чырвонаармеец. Здымак у мяне ёсць. Гэта да пятай гадавіны рэвалюцыі Смаленскі губвыканком, там стаяла наша часць, падарыў нам шынялі форменныя, нас сфатаграфавалі.

У пятнаццаць гадоў я быў дарослым чалавекам. Дзяцінства з нашага жыцця знікала рана. Мне было дзевятнаццаць гадоў, калі я стаў першым сакратаром райкома камсамола. Дваццаць два гады — ужо першы сакратар райкома партыі.

Быў камсамолец, а мне падабаліся партсходы. Мне падабалася, што там у канцы заўсёды спявалі «Інтэрнацыянал». Ужо я працаваў сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі, і прыехаў да нас Клімент Яфрэмавіч Варашылаў. І зусім выпадкова ён успомніў і расказаў нам, адкуль гэтая ідэя. Гэта Ленін так сказаў. Ідзе партсход, людзі крытыкуюць адзін аднаго, разыходзяцца ў поглядах, сварацца. Здаецца, яны ўжо ніколі не будуць разам, ніколі не сыдуцца. Скончыўся сход, усе спяваюць «Інтэрнацыянал». Зноў усе разам, усе адна сям'я.

Не, што ні кажыце — час нам выпаў цяжкі, але людзей я запомніў дзівосных. Блізка ведаў Веру Харужую. І вось што гэта быў за чалавек. Калі яна сядзела ў белапольскай турме, яе наш беларускі ЦВК узнагародзіў ордэнам Чырвонага Сцяга за барацьбу з белапалякамі ў грамадзянскую вайну. Сярод членаў КПЗБ быў такі закон, калі цябе арыштавалі, не прызнавацца, што ты камуніст, каб не пацягнуўся ланцужок і каб іншыя не пацярпелі. Яна зрабіла памылку, яна прызналася, што яна камуніст. Але гэта ў яе сітуацыі ні для кога іншага ніякай небяспекі не ўяўляла, толькі для яе самой рабіла больш цяжкім турэмны рэжым.

Калі мы абмянялі контррэвалюцыянераў на камуністаў, яна прыехала ў Мінск, ёй уручылі ордэн. Я чытаў дакладную Чарвякова, дзе ён апісвае, як выклікаў Веру Харужую, уручыў ёй ордэн Чырвонага Сцяга, а назаўтра яна прыйшла ў ЦК і вярнула ордэн з запіскай, што ЦК партыі не ведае ўсіх маральных акалічнасцей яе знаходжання ў турме. Хоць яна была зусім чыстая. І ёй пра гэта ўсе гаварылі. Але быў для яе вышэйшы суд — яна сама. Гэты ордэн і цяпер захоўваецца ў Інстытуце гісторыі партыі...

**Паліна Аляксандраўна Анькова**, член партыі з 1919 года.

Жыла я да вайны ўвесь час у Іркуцку. Там і ў камсамол уступіла, і ў партыю.

Дык вось, я дагэтуль памятаю, як замерзне зімой Ангара, а мы ўсе паўгалодныя, паўраздзетыя. Але суботнікі ў нас — круглы год, і зімой таксама. Зімой працавалі на чыгунцы, збіраліся там камсамольцы з усяго горада.

Мароз пад трыццаць градусаў, а паліточык на мне асенні і сацінам летнім пацягнены. Дзяўчына адна, што разам са мной працавала, мы разгружалі вагон з дрывамі, пытаецца:

— У цябе такі паліточык лёгкі. А другога няма?

— Няма.

— Ведаеш, што: а ў мяне два паліто. Было яшчэ добрае паліто, і вось ад Чырвонага Крыжа зноў паліто атрымала. Ты мне скажы адрас свой, я вечарам табе адно прынясу.

І такое добрае паліто прынесла! Скажыце: хто цяпер так зробіць? Яна мяне не ведала, нічога пра мяне. Досыць было, што яна камсамолка, і я камсамолка. Ці ты — член партыі, і ён — член партыі. Мы былі як браты і сёстры...

**Лізавета Гаўрылаўна Пераборшчыкава**, член партыі з 1919 года.

...У дваццаць першым годзе ў нас быў вялікі голад. У нас, гэта ў горадзе Орску Арэнбургскай вобласці. Камсамольцам даручылі арганізацыю дзіцячых дамоў. Мы хадзілі і збіралі дзяцей па вуліцах, па падвалах, па сметніках. Мёртвыя людзі ляжалі ў дамах, на вуліцах. Іх складвалі ў фургоны і адвозілі на могілкі. Там не закопвалі іх, так і пакідалі да вясны, яны ляжалі чорнымі мерзлымі штабялямі. Не было каму капаць вялікія магілы. Ідзеш па вуліцы і бачыш: маці мёртвая ляжыць, а дзіця маленькае сядзіць ля яе і просіць есці, не разбярэш нават, дзяўчынка гэта ці хлопчык.

Кончылася зіма, пачалі грымець па сёлах кулацкія банды. Іх так і называлі: зялёныя банды. Нас выклікалі ўсіх у клуб і кожнаму камсамольцу далі вінтоўку. Ноччу мы атрымалі вінтоўкі, а раніцою ўжо ехалі на падаўленне банд. Падзялілі нас на атрады, у кожным атрадзе былі чырвонагвардзейцы, трычатыры нашы камсамольцы і адзін камуніст. У нашым атрадзе праз некалькі дзён забілі камсамольца Васю Васягіна. А ў суседнім сяле бандыты ўначы выразалі ўвесь атрад. Дваццаць адзін чалавек загінуў.

Хавацы мы павезлі іх у горад на падводах. Дваццаць адна падвода ішла. Труны самі рабілі, самі іх туды паклалі. У каго рука перасечана, у каго нага. Колькі ехалі, столькі плакалі.

Што такое радыё, мы ўведалі, калі памёр Ленін. Сабраліся ў клубе, нам кажуць:

— Зараз будзе гаварыць радыё.

Ніхто не паверыў, як гэта яно будзе гаварыць, можа, хто-небудзь схаваецца і будзе гаварыць. Цішыня. А пасля мы пачулі:

— Памёр Уладзімір Ільіч Ленін...

Усю ноч мы не разыходзіліся. Праз некалькі дзён слухалі зварот ЦК партыі да ўсяго народа: адказаць на смерць правадыра ўступленнем у партыю. Я напісала заяву, у нас усе камсамольцы напісалі заявы аб прыёме ў партыю. Камуніст я з дзевятнаццатага года...

У дваццаць чацвёртым годзе выйшла замуж. Муж мой Яўген Пераборшчыкаў камандзір Чырвонай Арміі, узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Вяселле нам зрабілі камсамольскае. Дзяўчаты недзе расстараліся марлі, пашылі мне вясельную сукенку. Сабраліся ўсе ў клубе, павіншавалі нас. Патанцавалі. Тады ж толькі ладзіўся новы быт. Наша вяселле — гэта было першае камсамольскае вяселле ў нашым горадзе.

Нарадзіўся сын. Мы з мужам назвалі яго Акцябром. У сорак першым годзе сыну споўнілася семнаццаць гадоў. Ён ірваўся на фронт, яго не бралі, гаварылі, каб пачакаў, калі яму споўніцца васемнаццаць гадоў, а ён хадзіў і хадзіў у ваенкамат, прасіў мяне: «Мама, ты член гаркома, табе не адмовяць...»

З фронту я атрымала ад яго пісьмо. «Праз дзесяць дзён мне споўніцца васемнаццаць гадоў...» І больш ніводнага пісьма. Потым прыйшло паведамленне аб яго гібелі. Таварышы прыслалі пісьмо, што ён загінуў геройчна. Мой Акцябр...

*Нават калі адны з іх гавораць: «Не, мы не былі аскетамі», а другія: «Так, мы былі фанатыкамі» і «Як гэта камсамолка нафарбавала вусны» — усё роўна яны ў сваёй непадобнасці вельмі падобны адзін на аднаго. Падобнымі іх робіць адна страсць і адна ідэя. Імя ёй — рэвалюцыя.*

**Васіль Пятровіч Ласковіч**, член партыі з 1930 года.

Так! Мы былі фанатыкі. Я ў сваіх успамінах так і напісаў, што мы былі фанатыкамі. А мне рэдактар кнігі падкрэсліў, што ў нас няма фанатыкаў. Я стаю на тым, што мы былі фанатыкамі, фанатыкамі рэвалюцыі. Людзі па тры, па чатыры разы сядзелі ў турмах. Выйдзе, уладкуецца на работу, праз месяц яго зноў хапаюць. Што гэта? Фанатызм? Не, гэта класавая сталасць. Высокі рэвалюцыйны рамантызм. Гэта не тыя фанаты, якія сёння збіраюць запалкавыя этыкеткі ці маркі.

Я вам скажу, што без фанатызму не можа быць рэвалюцыянера. Без гэтага не вытрывае ніхто. Што такое, напрыклад, вывесіць сцяг уначы ў мястэчку, ды яшчэ на будынку паліцэйскага ўчастка, калі кругом жандары, шпікі. Гэта ж страшэннае напружанне нерваў, усіх тваіх сіл. Гэта — рызыка! А лістоўку тыцнуць дзядзьку ў кажусе. Ён хрысціцца, па баках азіраецца, у яго ж сям'я, дзеці. А яго за гэтую лістоўку разам з табой у турму засадзяць. Ты ж хлапчук яшчэ. Хто раскажа пра душы нашых мацярок? У мяне тры сястры, я быў старэйшы брат, надзея, абаронца, карміцель. Замест гэтага я пайшоў у рэвалюцыю, пакінуў хату. Мацяркі не заўсёды разумелі нас розумам, а душой яны былі з намі. Калі я прыходзіў дадому на ноч, я спаў, а мама мая не спала.

Наша жыццё — гэта быў палёт. Для нашага пакалення, пакалення бальшавізму, ідэалам была барацьба. Вось мяне схапілі, гэта ж дзяржаўны апарат, за дваццаць чатыры гадзіны яны ўведалі, што пашпарт у мяне фальшывы. Вы адзін на адзін, вы бяззбройны. Калі вас заб'юць, нікога судзіць за гэта не будуць. Вас могуць разарваць, скалечыць, па-быдлячаму ўнізіць. Раніцай яны, адаспаныя, укормленыя, а ты змучаны, мокры, таму што ўсю ноч ляжаў у крыві, так цябе білі. О, гэта былі каты вопытныя, яны яшчэ ваявалі супраць Веры Засуліч, супраць ленінскага падполля. У польскай ахранцы вельмі шмат было гэтага белагвардзейскага пазаддзя. І вось мы сустрэліся.

Калі б не было рэвалюцыйнай адданасці, фанатызму, хіба вытрываў бы? Хто можа памерці? Толькі той, хто гатовы памерці. У мяне толькі камсамольскае сэрца, толькі вера.

Яны ведаюць, што ў мяне левы пашпарт, значыць, я чалавек не выпадковы ў партыі, і ў маёй галаве мінімум дзесяць явак, прозвішчаў, адрасоў, пароляў... Іх трэба высмактаць з-пад майго сэрца, з майго мозгу... Пачынаюцца катаванні... Вас прывязваюць за рукі, за ногі, вам затыкаюць рот. Гаварыць вы не можаце, вам паказваюць, што, калі наважышся гаварыць, кіўні пальцам. І стаіць такая машынка — там воцат, бензін, мача — такая сумесь. Вам устаўляюць два шлангі ў нос і пачынаюць пампаваць. А вы ж ведаеце, што такое дыхальныя шляхі, туды калі крошка трапіць, вы вар'яцееце, ужо яе там няма, а вы ўсё яшчэ не можаце прыйсці да памяці.

І вось перад вамі праз долю секунды пытанне... Толькі-толькі пачалі пампаваць... Пытанне: памерці ці паварушыць пальцам? І гора таму, хто паварушыць, лепш памерці. Калі кіўнеш пальцам, праціўнік адразу ведае, што недзе нейкая жылка, нейкі нервік спрацоўвае на іхнюю карысць. І пакуль вы так думаеце, вы памерлі, але вам не даюць памерці. Стаіць урач, у яго напагатове шпрыц. Вы — пры памяці, пачынаецца зноў:

— Яўка? Пароль? Адрас?

Ім што б там ні стала трэба калі не зламаць, дык надламаць вас. О, яны былі прафесары сваёй справы! Вам прыносяць дэкларацыю. Там не напісана, што я згодзен працаваць з імі. Гэта занадта груба. Яны просяць, угаворваюць: дай распіску, што не будзеш «умешвацца ў палітычныя справы». Не будзеш умешвацца і толькі. А далей жыві спакойна, маліся богу, што жывеш. Яны ведаюць, што самая маленькая трэшчынка ў чалавечай свядомасці з цягам часу можа даць цэлы разрыў.

Мяне катавалі два тыдні. Кінулі ў адзіночку. Тры гады я сядзеў у адзіночцы. Што такое адзіночка? Гэта каменны мяшок — два крокі ў даўжыню і паўтара ў шырыню. Ложак прыкаваны да сцяны, стол прыкаваны ў сцяне. Стаіць параша і тут жа кубак на ланцужку. Відэльца няма, таму што мяса ніколі няма, лыжку штораз забіраюць, таму што лыжкай можна зарэзацца.

Няма нічога страшнейшага за адзіночку. І калі вы не знойдзеце сяброў сабе, вы загінулі. І хто ў мяне былі сябры ў трох сценах? Іх не было побач, яны былі ў маім сэрцы, у маёй памяці: Кіраў, Куйбышаў, Ленін... дзяўчаты, якіх я любіў... Яны былі побач, я глядзеў ім у вочы. Гэта тое асяроддзе, той стан, якія памагалі выжыць, выстаяць. Мала таго, у турме мы таксама змагаліся. Мы адзначалі ўсе нашы святы: гадавіну Кастрычніка, 1 Мая... Да свята абавязкова трэба было здабыць чырвоны банцік, хоць самы малюсенькі. Калі мы іх не здабывалі, мы сваёй крывёю змочвалі палоскі белай паперы. Але чырвоны бант—гэта было абавязкова, і наша салідарнасць таксама абавязкова. І гэтая кропля крыві на банціку пасля нам каштавала нямала крыві.

Яны заходзілі ў камеру з ланцугом у руках, як правіла, п'яныя:

— Зняць! Зняць шматку чэрвону!

Не, самі мы ніколі не здымем. Мы самі, калі яны зойдуць, павінны яшчэ паспець сказаць:

— Сёння свята 1 Мая. Мы перадаём прывітанне ўсім пралетарыям. І ў знак салідарнасці...

Трэба паспець гэта сказаць, пакуль цябе не зваляць на падлогу, не пачнуць біць. Калі ты ляжыш і ўжо нічога не чуеш, толькі недзе самым ускрайкам прападаючай свядомасці здагадваешся, што цябе валакуць, валакуць у карцэр. А карцэр— гэта нара, дзе парашу не выносяць гадамі, дзе поўна чарвей, куды свежае паветра паступае толькі тады, калі аднаго вязня выводзяць, а другога заводзяць.

А ці ведаеце вы, што такое камуна? Камуна ў турме. Вам прыходзіць пасылка, і нават калі вы адзін у камеры, вы ні кавалачка, ні грама, ні кроплі не з'ясце, пакуль «морзе» не перадасце: атрымаў пасылку, масла — столькі, хлеба — столькі, цукру — столькі... Да вас прыходзіць адказ: масла ў шостую камеру, там хворыя, цукру сабе пакінуць тры драбкі, рэшту ў чацвёртую камеру, там таварышу кепска з сэрцам... Выпадку, каб нехта не выканаў загаду, схаваў, не памятаю. Каб хто меў дзве пары шкарпэтак і адну не аддаў таварышу, такога там не памятаю.

Я захапляюся сваім пакаленнем. Захапляюся яго фанатызмам... Наша юнацтва... Наша вера... Гэта былі бездакорныя гады...

(Заканчэнне на стар. 14).

**Імя Міколы Абабуркі, старшага навуковага супрацоўніка Магілёўскага педінстытута імя А. А. Куляшова, вядомае ўжо ў нашай філалагічнай навуцы.**

**Ён — аўтар шматлікіх артыкулаў і рэцэнзій па пытаннях мовы і літаратуры, а таксама кніг «Дыялектызмы ў творах беларускіх савецкіх пісьменнікаў», «Стылістычна абмежаваныя словы ў мове беларускай мастацкай літаратуры» і інш.**

**Як бачна, Мікола Абабурка сваёй працай вельмі блізкі да справы роднай літаратуры. Нават больш — ён спрабуе свае сілы ў прозе. Мініяцюры, што прапануюцца ўвазе чытачоў «ЛіМа», выяўляюць яго любоў да прыроды, душэўную шчодрасць, цікавыя мастацкія назіранні.**

**Хочацца шчыра пажадаць аўтару поспехаў і на новай для яго ніве дзейнасці.**

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

Мікола АБАБУРКА

# ПРЫРОДА-МАСТАЧКА

...З тых, можа, і выпадкова ўцалелых падлеткаў сёння адзін—лётчык, другі—адмірал, трэці—паэт, чацвёрты — аграном, пяты—заатэхнік, шосты—доктар навук...

## МІНУЛАЕ НЕ ВЯРТАЕЦЦА...

Імклівая нясе ў Чорнае мора свае невычэрпныя воды легендарны Дняпро Славуціч, нясе аж праз тры рэспублікі, навекі звязаўшы адным поясам тры братэрскія народы. А колькі стагоддзяў злучаў ён усходніх славян з Візантыяй, з іншымі заморскімі дзяржавамі? А як моцна зніттаваў ён Кіеў з Магілёвам і Смаленскам?

Нельга пералічыць усіх легенд і песень, складзеных пра Дняпро Славуціча. Бо чаго толькі ні вынеслі яго магутныя плечы! Чаго толькі ні бачылі яго празрыстыя воды! Чаго толькі ні наслухаліся яго няроўныя берагі! Спакон вякоў так было, так будзе і ў наступным: няма сілы, каб павярнуць плынь назад, спыніць яе ход!

Хоць і абмялела рака ў апошнія дзесяцігоддзі, але не страціла сваёй сілы і імклівасці. Плынь яе па-ранейшаму такая, што і добры плывец супроць далёка не праплыве. Таму і нясе яна на сабе ўсё, што ні падхопіць...

Сам не ведаю, чаму люблю глядзець уверх па цячэнні на бесперапынную плынь Дняпра Славуціча... Так аднойчы і ўбачыў, што нешта незвычайнае нясецца па волі лёсу. Паплыў, колькі было сілы, напярэймы— і ледзь паверыў убачанаму: цячэнне несла нежывога дзіка,— з вады вытыркалася толькі невялікая частка шчацiністага хіба.

Як жа магло здарыцца, што такі дужы звер не саўладаў з цячэннем ракі? Няўжо ўсё-такі браканьер, калоцячыся ад страху перад законам, але ўсё ж паддаўшыся ўласнай прагнасці, падстрэліў жывёліну, а тая, знямогшыся, абпілася? Няўжо сам няшчасны бадзяга-адзіночка спыніў сваё бадзянне, боўтнуўшыся лычом уніз? Думай, гадай, а лычастага няма... Страчанае, як і мінулае, не вяртаецца!

## ДЗІВА І ФАКТ

У санаторыі «Эгле», што месціцца на адным з літоўскіх берагоў Нёмана, здзівілі мяне вавёркі: як кацяняты ці сабачаняты, бегаюць за людзьмі, папрашайнічаюць, каб тыя кінулі цукерку ці іншы ласунак, а потым, атрымаўшы пачастунак, як малпы, садзяцца, абнюхваюць ды абліззваюць яго. Некаторыя адразу аплятаюць здабычу, больш запаслівыя заносяць у схованы і вяртаюцца зноў выцыганьваць. Надзвычай гжэчныя становяцца на заднія лапкі і ківаюцца, робячы нешта падобнае на рэверансы. Вось тады і злавіў сябе я на думцы паспрабаваць прыручыць пушыстахвостых прыгажунь дома, у прыдняпроўскім лесе-парку. Гэта думка не давала мне спакою ні ў Друскінінкаі, ні ў Магілёве: круцілася і круцілася, як тая назола-муха, пакуль не рашыўся, здавалася б, на немагчымае...

...І падаўся ў пошукі рыжахвостых верхалазаў па прыдняпроўскім ельніку-арэшніку. Пахадзіўшы трошкі, пабачыўшы, як звяркі пераляталі з дрэва на дрэва, ані не падпускаючы блізка, нават адчай узяў. Пасля адна вавёрка ўсё-такі перабегла мне дарогу метраў за дзесяць ад маёй сцежкі, як быццам бы падаўшы вялікую надзею на ажыццяўленне смехатворнай мары. Я нават зарадаваўся. Ну, думаю, гэта тая, што і патрэбна мне. Ажно не: яна, пэўна, была чужая ці выпадковая... Мая ж сустрэлася мне зусім у іншым баку, зусім у іншых умовах і абставінах.

Убачыў вастразубую аматарку арэхаў на невялікай хвоі, купчастай, з вельмі густым веццем. Сядзіць сабе на вяршочку і нібыта пранізвае мяне сваімі вочкамі-пацеркамі, сапраўднымі вавёрчынымі, бо іншыя жывыя істоты не выхваляюцца так сваім зрокам (дарэчы, паляўнічыя заўсёды бяруць вавёрчына вока на мушку: і каб спрыт свой паказаць, і каб футрачка не папсаваць).

«Эге, — цюкнула мне, — ты, золатца, з роду тых папрашаек». Падумаў і пачапіў кружочак булкі-батона на сучок. Адышоўся, сцішыўся і назіраю... Не адразу сцяміла, але назаўтра падкормка паўтарылася, бо на сучку было пуста...

З тыдзень падкормліваў, потым перастаў і праходзіў міма, як бы забыўся пра ўсё задуманае. Адным вокам бачыў, што мая «абранніца» нервуецца, сігаючы то ўверх, то ўніз па любімай сасне. «Ага, значыцца, клюнула, прыгажунька!» Цяпер ужо ласункі пайшлі смачнейшыя і клаліся на мяккі машок, што распушыўся пад самай сасной. Не паспяваў я знікаць з поля зроку красуні, а ўсё пакладзенае падбіралася і ехала ўверх. Паступова падкормка-частаванне аддалялася і аддалялася ад нашай сасны. Урэшце раптоўна спынілася...

...І пабегла аматарка арэхаў выпрошваць усмакаваныя мучныя ды кандытарскія вырабы, нават апярэдзіўшы мой ход. Дзіўна, але факт!

## ГАЛУБІНАЯ ВЕРНАСЦЬ

Спакон вякоў галубы былі ў пашане сярод людзей, дапамагалі ім жыць і працаваць, ратавалі іх у цяжкія гады ад галадухі. Ды і гняздзіліся заўсёды побач.

Гэтыя птушкі крыху нахабнаватыя і назойлівыя: лезуць сляпіцаю ў любую дзірку, не адчуваючы сваім прыродным інстынктам і бяды, часам смяротнай. Мне неаднойчы даводзілася быць сведкам такіх выпадкаў. Аднойчы голуб узяў ды залез у вышэйную аддушыну шматпавярховага цаглянага дома— і сам, пранырa, задыхнуўся, і патрэбную адтуліну закупорыў. Другі ўлез у маток з ніткамі, аблытаў сам сябе, потым зачапіўся за сук на дрэве ды так і не ўзляцеў больш... А колькі іх аказваецца пад коламі машын, трапляюць у самыя неверагодныя пераплёты!..

Выпадак, які адбыўся з парай галубоў на вачах маёй сям'і, ускалыхнуў усіх нас да глыбіні душы, да слёз.

Вынеслі мы мой стары рабочы стол на балкон: мо калі-небудзь там, на свежым паветры, пасяджу там ды ствару што-небудзь путнейшае, чым у кватэры. Але голуб з галубкай не далі ажыццявіцца маёй мары: адразу аблюбавалі сабе новае месцажыхарства, бесцырымонна засяліліся і зажылі прыпяваючы. Можна было б іх і адвадзіць, але паднялі гвалт дзеці. Захацелася блазноце падружыцца з вольнымі птушкамі (ім, бачыце, зялёныя папугайчыкі ўжо абрыдлі сваім прарэзлівым чырыканнем ды аднастайнасцю рухаў у клетцы).

Хлопцы мае вывучалі галубінае жыццё да самых драбніц. Колькі было радасці і захаплення, калі ў гняздзе з'явілася першае яйка! Потым другое, трэцяе... І неўзабаве галубка перастала вылятаць з гнязда, бо села на яйкі. Ну, і шчыраваў жа ля яе тады галубок! Такі бок клапатлівы, упраўісты ды вёрткі, што паспяваў нават патанцаваць перад дапытлівымі мальцамі, бо добра ўжо ведаў: яны праз шкляную перагародку нічога благога не зробяць, акрамя таго, што будуць трохі шумець, падскокваючы і пляскаючы ў ладкі ад захаплення.

Аднаго дня дзеці сустрэлі мяне сумнай весткай: не прыляцеў галубок пад саменькі вечар. Я супакоіў іх, што яшчэ прыляціць, як заўсёды, нанач, зашмаргнуў фіранкі. Назаўтра ранеенька падаўся на працу, забыўшыся на галубоў. А вярнуўшыся дадому, застаў дзяцей ў слязах: «Не-э-э пpыля-а-а-цеў галу-у-убок... І-ы-ы галу-у-у-бка не вару-у-ушыцца-а-а...» Адчыніў балкон і стаў сведкам галубінай трагедыі: не прыляцеў голуб, не пакарміў, не папаіў сваёй сяброўкі, а галубіха не зляцела з яек да канца...

Есць, аказваецца, не толькі лебядзіная, але і галубіная вернасць!

## АПЕНЬКІ НА БАЛКОНЕ

З тыдзень палівалі сасмяглую летнюю раслiннасць дажджы. Потым так прыпарыла, што ажно затуманілася наваколле. Хоць і чэрвень стаяў на двары, але мне цюкнула—палезуць з набухлай зямелькі грыбы. І пайшоў ляснымі сцежкамі, каб задаволіць грыбнікоўскае жаданне.

Іду, пранізваючы вачыма кожную былую грыбную лапінку, але—каб хоць які. Нарэшце ўбачыў парачку невялікіх, яшчэ белых мухамораў. Ага, значыць, павінны быць і ядомыя! Але ж якія?! Сам па сабе ўзнік грыбны азарт. Тупу-тупу, тупу-тупу—і аж сэрца зайшлося: пад кустом арэшніку, на пачарнелай ад доўгага ляжання ляшчыніне павыскоквалі, нібы на планцы гармоніка, жоўценькія гузічкі... Што гэта за праява?! Угледжваюся і пазнаю: летнія апенькі-варушкі! Налічыў ажно дваццаць тры кволенькія шапачкі, а ў расколіне відаць яшчэ шмат храсточкаў. Падняў цурбалак... Імгненна стрэліла думка—вырасціць лясную малечу дома, на балконе. Але ж як туды знаходку прынесці? І сонца іх можа высушыць, і людзі сурочаць (маці казала, што ўсё, толькі што народжанае, подзіву баіцца). Рашыў на цямочку прыйсці і забраць той цельпучок: балазе ад шчаслівай мясцінкі да майго гарадскога гмаху — рукой падаць! Так і зрабіў...

На балконе некалькі разоў паліў грыбкі вадою—не з крана, а крыху падагрэўшы яе. Хацелася не спаць усю ноч і вартаваць, каб убачыць, як будуць расці летнія апенькі... на балконе (кажуць, што грыбы растуць толькі ўранку, на самым золку), але няёмка было перад сямейнікамі. Ды і не хацелася, каб, у выпадку няўдачы, паднялі старога грыбніка на смех.

Назаўтра паткнуўся сабраць ураджай, але—завялі апенькі, паніклі, так і не крануўшыся ў рост. Вось і прыручыў! Вось і «абхітрыў» прыроду!

## МАЛІНЫ... НА ДРЭВЕ

Чалавек — дзіўная істота. Напрыклад, амаль заўсёды на сваім гародзіку пераспельвае ягады, а ў лесе, на дзялянках, яшчэ зеленаватыя зрывае. Ад чалавека найбольш дастаецца суніцам і малінам. Аж душа баліць, калі бачыш ушчэнт здратаваны маліннік ці сунічнік са спрэс зялёнымі ягадамі. Безабаронныя яны. Зрэшты, гэта не зусім так. Маліннік бароніць крапіва. Самая звычайная стрыкуха-крапіва. Толькі там, у зарасніках крапівы, і ўдаецца паласавацца смачнымі: спелымі, духмянымі ягадамі. Тым больш, што я змалку не баюся ні стрыкання крапівы, ні джала пчалы ці асы. Маці прывучыла. Казала, што найлепшых лекаў ад раматусу, чым крапіўны апёк альбо пчалінае джыганне, не знайсці. Тут я аказаўся здольным вучнем і не абыходзіў зараснікі жыгучкі...

Раз крапіва прывяла мяне да маладога алешніку. Густы, як лаза, высокі і шчыльны, як хмара. Прадзіраюся, каб там хоць якіх варушачак у булён знайсці, а тут — нечаканасць. Маліннік, нібы дзікі вінаград ці хмель, падзёрся па дрэўцах уверх, звіс з іх, чырванее сваімі пацеркамі-караламі. Каб сабраць ягады, давялося... нагінаць дрэўцы.

## КАЛІ Ж ХАДЗІЦЬ У АРЭХІ?

Звычайна можна ўбачыць паломлены ляшчыннік у жніўні. Гэта яскравая прыкмета нядбайства, нявытрыманасці аматараў арэхаў. Прытым не дзяцей: а падлеткаў і дарослых! Якія ні падкія дзеці на ўсё недаспелае, а ўсё ж больш далікатныя і беражлівыя да прыроды. Дзеці лепш «абследуюць» сто кустоў, чым будуць мучыцца, згінаючы стойкія арэшыны...

Самыя спелыя арэхі — увосень. І іх тады браць надзвычай добра: страсянуў арэшыну — і шумна пасыпаліся яны са сваіх гнёздаў. Адно трэба—патрываць да гэтай пары. А ў самую глыбокую восень можна збіраць арэхі, як жалуды ці грушы-дзічкі, на зямлі—толькі нагінацца не лянуйся.

Лепш за ўсё хадзіць па арэхі ў лістападзе, калі лісце ўжо на зямлі, а позніх арэхі яшчэ вісяць на ляшчынінах. Тады арэхавы дождж—самы цёплы. А калі першы марозік прыцісне ды першы снег выпадзе, дык тады можна паласавацца такімі арэхавымі ледзянцамі, якіх ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць!

## АСЕННІ КРЫГАХОД

У канцы лістапада дажджы з вятрамі сарвалі з дрэў апошнія лісточкі, зрабілі на ток чорнае бульбянішча, расквасілі палявыя дарогі. Познія апенькі лезлі і лезлі з пнёў, з зямлі не толькі ў лесе, але нават у некаторых садах ды агародах (больш за ўсё там, дзе рос бярэзнік ці арэшнік). Шэры, сумны колер запанаваў усюды, а лес дык, здавалася, учарнеў, азыз. Звяр'ё знікла, папрападала, пахавалася ў толькі яму вядомых схованкі, а людзі яшчэ апошні раз агледзілі сваё жытло, уцяплялі яго і ацяплялі, рыхтаваліся да занятку, што будуць рабіць доўгімі зімовымі вечарамі...

Як па календары, у пачатку снежня ацiхла непагадзь, паяснела неба, нанач пачаў брацца марозік, які паступова перарос у злосніка і скаваў, нарэшце, хлюпоту пад нагамі. На лужынах з'явіўся звонкі дзіцячы лёд, рэкі і азёры таксама пакрыліся тонкай і крохкай лёдавай васкоўкай. Неўзабаве зацерушыў жаданы першы снег, прыбяліўшы ўсё наваколле...

Нават сівы Дняпроператварыўся ў бясконцую бела-іскрыстую стужку. На яго заснежанай роўнядзі з'явіліся першыя сляды: варона пахадзіла касіцамі (мусіць, захацела паласавацца, як той казачны воўк, жывой рыбкай); некалькі разоў шашок смела пераадолеў адлегласць ад аднаго берага да другога; нечы сабака бегаў-падскокваў сюд-туд, напэўна, ад бязмежнай радасці, што ўдалося з ланцуга сарвацца; хітрунння-ліса нарэшце-такі перайшла з аднаго ляснога масіву ў другі, на які не раз паглядала, аблізваючыся, і вясною, і летам, і ўвосень...

Ды радасць першай зімы хутка прапала: раптоўна знік мароз і растаў снег. На Дняпры нетрывалы лёд тут жа патрэскаўся. Імклівае цячэнне ракі разразала яго на пласціны-шматвугольнікі. Тонкія, празрыстыя льдзіны не ламаліся, не крышыліся, як гэта бывае напрадвесні, а далікатна адштурхоўваліся адна ад адной і кружыліся, нібы ў карагодзе. Не крыгаход, а своеасаблівы перадзімовы танец. Ну ж і мастачка-прырода! Падзівіцеся: чым, сапраўды, не танец лёду?

Глядзеў я на гэты цуд прыроды ды і падумаў: «А каб узяўся добры марозішча і ў адзін мірг вока спыніў яго, гэты танец? Якія б карункі леглі на ваду?» А ўсемагутны дух як быццам прачытаў мае думкі. Назаўтра я ўбачыў: рака была ўся-ўсенькая ў застылых кругах-ледзяшах, накшталт агромністых аладак, аблітых зацукраваным мёдам...

**ПОШУКІ ЗНАХОДКІ**

# Як усё ж звалі беларускага першадрукара?

Магло б здавацца, што гэтае пытанне ўжо даўным-даўно вырашана: дастаткова ўзяць у рукі такія акадэмічныя выданні, як «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і калектыўны зборнік «450 год беларускага кнігадрукавання» (выдадзены ў 1968 г.), сучасныя энцыклапеды, падручнікі для вышэйшых навучальных устаноў і сярэдняй школы, навукова-папулярныя кнігі, шматлікія артыкулы. Усюды там Скарына называецца Францыскам. Так яго імя гучала і ў час Скарынаўскіх чытанняў, якія праводзіліся ў Акадэміі навук БССР у кастрычніку 1986 г.

Гэтае імя — як быццам канчаткова і беспаваротна — выцесніла ўсе іншыя варыянты. А калісьці ж звалі Скарыну па-рознаму: і Францішкам, і Францыскам, і Георгіем, і нават Юрыем, абапіраючыся падчас не на рэальныя факты, а на выпадковыя, недастаткова правераныя звесткі ці на нейкія меркаванні або пажаданні.

Францішкам называлі Скарыну польскія аўтары: Шыман Старавольскі, які ў XVII ст. пісаў, што бачыў у Маскве і там-сям на Русі шмат кніг Скарыны ў перакладзе на славянскую мову, Самуэль-Багуміл Ліндэ, аўтар славутага слоўніка польскай мовы, Міхал Вішнеўскі, прафесар Ягелонскага універсітэта ў Кракаве (ён прысвяціў Скарыне спецыяльны раздзел у VIII томе «Гісторыі польскай літаратуры», выдадзеным у 1851 г.), Аляксандр Ельскі ў артыкуле «Беларуская літаратура і бібліяграфія» (змешчаным у VII т. польскай энцыклапедыі) і іншыя. У рускіх крыніцах імя Скарыны або не ўпамінаецца, або ён называецца Францыскам (гл. Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. — СПб., 1888). У адпаведнасці з нормамі рускай арфаэпіі вучоныя вымаўлялі ўскосныя склоны скарынінскага імені «Франциска», «Франциском» як «Францыска», «Францыском», забываючы або не ведаючы (ці проста не жадаючы прымаць пад увагу), што ў беларускай мове, у адрозненне ад рускай, «ц» перад «і» (тады яно пісалася як «и») змякчаецца. Імя «Францишек», «Франциска», «Франциском» (тыя формы, якія сустракаюцца ў самога Скарыны) сваім паходжаннем звязана з польскай мовай, а там «ц» перад «і» таксама змякчаецца.

У XIX ст. былі апублікаваны копіі лацінскіх грамат караля Жыгімонта I. У адной з іх Скарына характарызуецца прыметнікам egregium. Гэта — вінавальны склон ад egregius — выдатны, вельмі шаноўны. У другой з грамат замест прыметніка egregii ўжываецца слова georgii. Яно падштурхнула некаторых даследчыкаў на думку, што ў Скарыны было праваслаўнае імя Георгій і што ён, паступаючы ў Кракаўскі універсітэт, вымушаны быў памяняць яго на каталіцкае. І насуперак таму, як называў сябе ва ўсіх выданнях сам Скарына, як называлі яго ў шматлікіх дакументах, першадрукара перахрысцілі ў Георгія. У паслякастрычніцкі перыяд гэтае імя ўжывалася амаль выключна да II палавіны 60-х гадоў, пакуль не была канчаткова даказана яго беспадстаўнасць. На рубяжы 60—70-х гадоў з'явіліся нешматлікія спробы лічыць Скарыну Францішкам, але тады ўжо было канчаткова вырашана, што яго сапраўднае імя — Францыск. Так было запісана ў 1967 г. у пастанове бюро Аддзялення *грамадскіх навук* АН БССР.

Аднак пастановамі нават і вельмі высокіх інстанцый нельга адвергнуць ці адмяніць гістарычныя факты. А форма Францыск не ўлічвае ні таго, як сам Скарына называў сябе, ні заканамернасцей беларускай мовы, ні паходжання імені. Канчаткова вырашыць гэтае пытанне можна толькі з улікам публікацый першадрукара. У прадмовах і пасляслоўях да паасобных кніг Біблii імя Скарыны захавалася ў назоўным, родным і творным склонах.

**НАЗОЎНЫ СКЛОН:** «Я, ФРАНЦИШЕК, Скоринин сын...» Так надрукавана ў прадмовах да пражскага (1517 г.) і віленскага (1525 г.) выданняў «Псалтыра», да кніг «Иов» і «Притчи премудраго Саламона, царя Израилева» (гл. Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі — Мн., 1969, стар. 11, 15, 20, 154). Адзін раз ужываецца форма: «Я, Франциско Скорина...» (Прадмовы і пасляслоўі, с. 41). Тут, магчыма, вызначыўся ўплыў італьянскай мовы, у якой ёсць імя Франчэско. Але гэтая форма не пярэчыць і нормам беларускай гутарковай мовы, у якой і сёння можна сустрэць імёны Адамко, Ігнатко, Янко, Яначко, Янка.

**У НАЗОЎНЫМ СКЛОНЕ ІНШЫЯ ФОРМЫ У САМОГА ПЕРШАДРУКАРА НЕ СУСТРАКАЮЦЦА.** Праўда, у розных лацінскіх дакументах той пары ён называецца Franciscus.

**У РОДНЫМ СКЛОНЕ** усюды пішацца «Франциска», а ў **ТВОРНЫМ** — «Франциском». Як бачым, у параўнанні з назоўным склонам тут выпадае беглы галосны гук «е» (заканамернасць і сучаснай беларускай мовы: Францішак — Францішка), а замест зычнага «ш» з'яўляецца «с» (тое, што мы сёння называем чаргаваннем зычных: страха — стрэшка — на страсе, скошаны — касіць — касьба.

Назоўны склон імені Францішек адпавядае і сённяшняму, і толькі замест «е» мы пішам «а», што абумоўлена такой заканамернасцю беларускай мовы, як аканне. Ды яшчэ замест тагачаснага «и» мы пішам сёння «і».

У сувязі з тым, што ў сучасны перыяд Скарыну называюць усюды Францыскам, узнікае цэлы шэраг пытанняў:

1. З якіх пор пры вызначэнні асноўнай, зыходнай, «изначальной» формы слова назоўны склон не ўлічваецца, адкідаецца, а бярэцца за аснову ўскосныя! У нашым канкрэтным выпадку чаму на аснове ўскосных склонаў прыдумваецца назоўны і абыходзіцца тая форма, якая ёсць у самога Скарыны!

2. Чаму пры гэтым парушаецца такая заканамернасць і тагачаснай беларускай мовы (засведчаная ў самога Скарыны) ды і сучаснай таксама, як наяўнасць беглых галосных: Францишек — Франциска, Францішак — Францішка!

3. Чаму ў слове «Францыск» скарынінскае «и» ператварылася раптам у «ы»! Можа «ы» ў той час не сустракалася, асабліва пасля «ц»! У «Слоўніку мовы Скарыны» (т. 2, стар. 339) мы знаходзім: «циль» — мэта (нямецкае Ziel) і «цыкло» — сукенка. Паколькі ў гэтым канкрэтным выпадку імя Францішак так ці інакш звязана сваім паходжаннем з польскай мовай, то і вымаўленне яго павінна быць блізкім да польскага: Францішак, а не Францышак.

4. Ці лагічна допускаць, што ў самога Скарыны толькі ўскосныя склоны ўтвараліся ад лацінскай мовы, а назоўны захоўваў свой першародны выгляд!

Калі б дапусціць, што пасля «ц» можна было б пісаць «і» або «ы» ды яшчэ абыходзіцца з беглым галосным «а» («е») так, як нам захочацца, то ў нас магло б атрымацца восем (!) варыянтаў імені Скарыны: Францішак — Францышак, Францісак — Францысак, Францішк — Францыск, Францішк — Францышк. Якія перавагі імя Францыск мае над усімі іншымі!

Узаконеная ў апошні час норма «Францыск» пярэчыць той форме, якой увесь час карыстаўся сам першадрукар, а таксама нормам і заканамернасцям як беларускай, так і польскай моў, з якімі імя Скарыны звязана было сваім паходжаннем і ўжываннем. Формы ўскосных склонаў Франциска, Франциском (Францiска, Францiском) створаны ад назоўнага Францишек (Францiшек) у адпаведнасці з нормамі беларускай мовы, а не лацінскай.

У любым выпадку зыходнай, першапачатковай формай з'яўляецца назоўны склон, і толькі ад яго ўтвараюцца ўскосныя, а не наадварот. Форма «Францыск» *ні ў адной з тых* моў, якімі карыстаўся Скарына, не ўжывалася: ні ў беларускай (Францишек, г. зн. Францiшак), ні ў польскай (Franciszek), ні ў чэшскай (František), ні ў лацінскай (Franciscus), ні ў італьянскай ((Francesco), ні ў нямецкай (Franz).

У гэтай сувязі варта нагадаць, што аўтара «Песні пра зубра» мы называем па-сучаснаму Мікола Гусоўскі, хаця сам ён падпісваўся Nicolaus Hussoviensis. А вось Скарыне прыпісваем імя Францыск, нягледзячы на тое, што і ў пачатку і ў канцы сваёй выдавецкай дзейнасці (у 1517 г. і ў 1525 г., у пражскім і ў віленскім выданнях «Псалтыра») сам пра сябе ён пісаў: «Я, Францишек...»

Не вырашана праблема і з вымаўленнем прозвішча першадрукара. Сёння мы гаворым і Скарына́ і Скары́на. Бясспрэчна, што ў польскай, чэшскай, лацінскай, італьянскай мовах націск не падаў на апошні склад. А як было на беларускай — мы дакладна не ведаем. Па аналогіі са словамі «барана», «старана», «старына» хацелася б ставіць націск на апошнім складзе. Але сам назоўнік «скары́на» (скарынка) ужываўся з націскам на аснове. Аб гэтым сведчыць, у прыватнасці, «Слоўнік беларускай мовы» Насовіча.

У першадрукара захаваліся тры склонавыя формы яго прозвішча: Скорина, *Скорины, Скориною.* На творны склон нам і трэба звярнуць увагу. У сучаснай мове пры націску на аснове (Скары́на) у творным склоне мы павінны пісаць «Скары́нам». Форме ж «Скарыною» можа адпавядаць у назоўным *склоне толькі* прозвішча з націскам на апошнім складзе, г. зн. Скарына́. Для таго, каб зберагчы скарынінскую форму творнага склону, мы павінны былі б у назоўным склоне ставіць націск на апошнім складзе. Улічваючы, аднак, тое, што ёсць аргументы ў карысць і адной і другой формы і што ў практыцы выкарыстоўваюцца яны абедзве, можна допусціць вымаўленне і Скарына́, і Скары́на.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

## На блакітным экране

з 16 па 22 лютага 1987 года

16 лютага, 20.10

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА**

«А гармонік грае, грае...» Гледачы пазнаёмяцца з сямейным ансамблем Бацяноўскіх з Лагойшчыны.

17 лютага, 20.15

**«МУЗЫКА МАЕЙ РЭСПУБЛІКІ»**

У чарговай перадачы прагучыць новая, Чацвёртая сімфонія Д. Смольскага ў выкананні сімфанічнага аркестра Беларускага тэлебачання і радыё. Саліст—лаўрэат Міжнароднага конкурсу А. Крамараў. Дырыжор — В. Сарока.

20 лютага, 19.50

**«РАДЗІМІЧЫ». ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС**

Выпуск прысвячаецца паэту-франтавіку Міколу Сурначову. Прагучаць вершы паэта, успаміны сяброў Сурначова М. Аўрамчыка, П. Пранузы, Д. Кавалёва.

21 лютага, 12.30

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**

Пра І-ю рэспубліканскую выстаўку акварэлі і малюнка ў карціннай галерэі Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка.

21 лютага, 13.05

**«СЛОВА — ПАЭЗІІ»**

Урыўкі з паэмы А. С. Пушкіна «Яўгеній Анегін» у перакладзе А. Куляшова.

21 лютага, 13.20

Спявае салістка Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР Н. Губская.

У праграме — арыі з опер італьянскіх кампазітараў.

21 лютага, 13.50

**«ПРЭМ'ЕРА КНІГІ»**

Р. Барадулін. «Маўчанне перуна» Прадстаўленне новай кнігі адбудзецца ў Доме культуры «Мінскпрамбуда». Прымаюць удзел аўтар і акцёры мінскіх тэатраў.

21 лютага, 15.05

**ТЭЛЕВІЗІЙНЫ КЛУБ САМАДЗЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ**

Г. Марчук. «Люцікі-кветачкі». Спектакль народнага тэатра Мазырскага гарадскога Дома культуры.

Гэты спектакль атрымаў галоўны прыз на фестывалі народных тэатраў Прыбалтыкі і Беларусі «Рампа дружбы-86». Уступнае слова рэжысёра М. Коласа.

21 лютага, 18.40

**«ГАРАЧАЯ КРЫНІЦА». СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ ПАЭТА А. ЗВОНАКА**

Паэт расказвае пра свой творчы лёс, паэзію, якой ён працягвае служыць, пра тое, што зроблена і што ён збіраецца здзейсніць. Прымаюць удзел С. Грахоўскі, артысты беларускіх тэатраў.

22 лютага, 15.15

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**

Тэлерадыёстэрэафанічная праграма. Л. Захлеўны, М. Ясень. «Яднайцеся, людзі».

22 лютага, 17.45

**ДА ДНЯ САВЕЦКАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТУ**

Сустрэча воінаў ЧБВА, ветэранаў Савецкай Арміі і Вялікай Айчыннай вайны з заслужаным дзеячам мастацтваў БССР кампазітарам Л. Захлеўным.

22 лютага, 19.50

Канцэрт Дзяржаўнага арэнбургскага рускага народнага хору. Вы ўбачыце вакальна-харэаграфічную кампазіцыю, пастаўленую на аснове песеннага і танцавальнага фальклору, запісанага ў раёнах Арэнбургскай вобласці.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ-86. Мн., «Мастацкая літаратура», 1986. — 1 р. 60 к.

Я. КОЛАС. Новая зямля. Сымон-музыка. Паэмы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1986. — 2 р. 70 к.

У. КАРОТКІ. Творчы шлях Мяленція Сматрыцкага. На рускай мове. Мн., «Навука і тэхніка», 1987. — 1 р. 50 к.

Я. СУРКОЎ. Што нам Генуба? Артыкулы. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1986. — 1 р.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На *белорусском языке.*

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02055 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі—33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў —33-24-62, аддзела інфармацыі —33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.